# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№51 (2505)

19 снежня 1996 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.


ТУРЫЗМ ПА-БЕЛАРУСКУ

## АД ВАРШАВЫ ДА МАСКВЫ «БЕЛАЯ ПЛЯМА»?

**Агульнавядома: турызм — у шэрагу самых даходных і перспектыўных крыніц фінансавання любога дзяржаўнага бюджэту. Аднак ці многа турыстаў можна ўбачыць на беларускіх вуліцах? Пытанне рытарычнае. Дык у чым жа справа? У агульным заняпадзе? Што трэба зрабіць, каб становішча неяк увайшло ў нармальнае рэчышча? Пра гэта і іншыя аспекты ўзнятай праблемы гутарка з дырэктарам Інстытута турызму Юрыем АКУДОВІЧАМ.**

***— Юрый, чым жа ў нас можна прывабіць заезджага турыста?***

— У кожнага народа і ў кожнай зямлі ёсць свае вартасці. Безумоўна, беларусы маюць поўнае права і будуць заўсёды ганарыцца, скажам, Мірам ці Нясвіжам. Але калі па шчырасці, трэба вельмі любіць Беларусь, каб сцвярджаць, што яе славутасці здольныя выклікаць вялікую цікавасць у іншаземцаў.

Я быў у Германіі. Яе паўночная частка падобная да нашай краіны — па рэльефу, клімату, колькасці помнікаў. Потым трапіў на паўднёвы захад, дзе мясцовасць ужо больш няроўная, пачынаецца прадгор'е. Вось там такія казкі адкрываюцца... Стварэцца ўражанне, што куды ні зірнеш, пасюль, на кожным узгорку, — замак. Такі, як у Міры... Дакладней, прыблізна як у Міры. Бо адрозненне "іх" ад "нас" — каласальнае. Ва ўсім. І не на нашу карысць.

І ў той жа час паказаць, безумоўна, ёсць што і нам. Было б жаданне. Лічыцца: гасцей на Беларусь больш чым на пяць дзён запрашаць нельга.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Надвячорак. (Вёска ў Шчучынскім раёне).

Фота Віктара СТАВЕРА.

«ДАБРАЯКАСНА ЎПАРТАЯ АКТРЫСА» ЛІЛІЯ ДАВІДОВІЧ

## З ВАЧАМІ, ПОЎНЫМІ АГНЮ І СЛЁЗ



Адкуль у яе столькі энергіі, дзе бярэцца такі запал, калі яна, бы той смерч, урываецца на сцэну і рыжавалосай віхурай круціць нейкія дзіўныя танцавальныя пасажы?! Агністая кабета! Адразу і не зразумееш, ці то яна раззлаваная і прагне помсты, ці то яе капрызныя выбрыкі адрасаваны мужу, каб мацней заарканіць старога валацугу, ці наогул зусім не танцы дэманструе яна, — здзекваючыся са свайго Выкрутача... Толькі паспееш залюбавацца гэтым невыказна спеўным рухам рук, як яна ўжо вядзьмаркай, прытупваючы абцасамі, цясніць у кут хітруна-грахаводніка. Ні на момант не заціхне. Ні на хвіліну не супакоіцца. Ні на імгненне не спыніцца. Сама сюд-туд адно паўтарае:

— Яшчэ ні ў адной кніжцы гэтага не вычытала... а перабрала я іх на сваім вяку вельмі многа... каб дзяўчына, асабліва дворная...

Мы пачынаем сачыць за інтрыгай з паненкай, а рыжавалосая гром-баба зноў абрушвае на мужа каскад папрокаў:

— Ой ты, стары ветрагон! Выдумляеш усялякія фіглі. Гэта такая авантура, аб якой у ніякай кніжцы я не вычытала!..

Ці сапраўды гэтая няўрымслівая скандалістка заўзятая кніжніца альбо дурная галава пнецца з гразі ды ў князі — здагадацца цяжка. Ды і ўзростам кабета надта арыгінальная: вось яна яўна пажылая вакханка, а ты і вокам не паспееш мігнуць — яна ўжо кабетка што трэба, хаця і надта самавітай...

Такой паўстае перад гледачамі спектакля "Ідылія" ў Купалаўскім тэатры каларытная істота, што завецца Уршуляю, жонка вытанчанага хітруна і прайдзісвета, камісара маёнтка Банавантуры Выкрутача. Усіх, хто глядзеў пастаноўку вядомай "Сялянкі" В. Дуніна-Марцінкевіча, увасобленай на сцэне таленавітым Мікалаем Пінігіным як тэатральная пастараль "Ідылія", прываблівацюць і зачароўваюць

(Заканчэнне на 7-й стар.).

НАВУКОВА-ПЕДАГАГІЧНАЯ СПАДЧЫНА СЯРГЕЯ ПАЎЛОВІЧА

## КАБ ЖЫЦЬ ПАД СВАІМ НЕБАМ

**У снежні 1996 года спаўняецца 75 гадоў з дня заснавання Таварыства беларускай школы — культурна-асветніцкай арганізацыі, якая дзейнічала ў Заходняй Беларусі ў 1921—1937 гадах. Побач з такімі постацямі, як Б. Тарашкевіч, Р. Шырма, І. Дварчанін, у шэрагах заснавальнікаў і актывістаў ТБШ стаіць і прозвішча Сяргея Паўловіча.**

**Што ведае пра яго сучаснае пакаленне беларусаў?**

Імя Сяргея Паўловіча неадрыўна звязваецца з культурна-грамадскім жыццём Заходняй Беларусі ў 1920-я—30-я гады. Менавіта ў тое складанае дваццацігоддзе здолеў праявіцца яго талент Настаўніка. Яго асоба — адна з яркіх і самабытных у гісторыі айчыннай педагогікі. Нават і цяпер многія палажэнні, высновы з прац Сяргея Паўловіча не страцілі сваёй навуковай вартасці і актуальнасці. Найбольш адметнымі сваім выразным нацыянальна-гістарычным каларытам, агульнадаступнасцю, густам афармлення з'яўляюцца яго буквары. Так сталася, што шматлікія навукова-педагагічныя работы гэтага беларускага культурнага дзеяча сёння ўжо бібліяграфічная рэдкасць.

Сяргей Канстанцінавіч Паўловіч нарадзіўся 25 верасня 1875 года ў Кобрынскім павеце Гродзенскай губерні. Пасля сканчэння Літоўскай праваслаўнай семінарыі ў Вільні і духоўнай акадэміі ў Кіеве працаваў у царкоўных установах (1900—1909 гады), а потым настаўнічаў. Да 1913 года даваўся выкладаць у настаўніцкай семінарыі і жаночай гімназіі ў Рагачове. Потым Сяргей Паўловіч займаў пасаду інспектара народных вучылішчаў у Ваўкавыску.

Апошні перыяд яго жыцця — найбольш плённы — звязаны з Вільняй. З сярэдзіны 20-х гадоў ён выкладаў Закон Божы, а потым працаваў інспектарам Віленскай беларускай гімназіі. У спісе кандыдатаў на настаўніцкія пасады на 1926/27 навучальны год сярод 14 чалавек ёсць і яго прозвішча. Нялёгка ў той час у Заходняй Беларусі было і настаўнікам, і праваслаўным святарам, ды і наогул інтэлігенцыі. Беларускія школы закрываліся, замест іх паўсюдна ўзнікалі польскія. Настаўніцкія пасады там займалі пераважна мігранты — палякі, немясцовыя ўраджэнцы. Адчувальным быў уціск праваслаўнай царквы. Падвяргаліся ганенням і ксяндзы, якія праводзілі богаслужэнні па-беларуску. Аднак Сяргей Паўловіч застаўся верным асноўнаму запавету свайго жыцця — самаахвярна служыць музе ведаў, прывіваць дзецям любоў да агульначалавечых, хрысціянскіх каштоўнасцей.

Рэлігійнае выхаванне было важкай часткай як навучальнага працэсу, так і пазакласнай работы ў беларускіх гімназіях (у другой палове 20-х гадоў засталіся толькі 4 гімназіі — Клецкая, Навагрудская, Радашковіцкая і згаданая ўжо Віленская). Імша для вучняў-католікаў з Віленскай беларускай гімназіі адбывалася ў мясцовым касцёле Св. Мікалая, дзе з 1919 года вёў богаслужэнні Адам Станкевіч. Вучні-праваслаўныя хадзілі ў Пятніцкую царкву. Разам з урокамі рэлігіі гэта спрыяла, на

(Працяг на 4-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА ПАД АСОБАЙ АПЕКАЙ

**Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне, якое датычыць рэканструкцыі і капітальнага рамонту будынкаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**

**У адпаведнасці з гэтым дакументам Міністэрству фінансаў сумесна з Міністэрствам культуры пры падрыхтоўцы праектаў рэспубліканскіх бюджэтаў на 1997—1998 гады прадпісана прадугледжваць фінансавыя сродкі на рэканструкцыю і капітальны рамонт будынкаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, праектаванне новага комплексу будынкаў гэтай бібліятэкі ў Мінску, а таксама на набыццё абсталявання для камп'ютэрызацыі і аўтаматызацыі працэсаў апрацоўкі дакументаў і абслугоўвання чытачоў. Акрамя таго, Мінфін павінен выдзяляць штогод Нацыянальнай бібліятэцы інвалютныя сродкі для аплаты замежных перыядычных і бібліяграфічных выданняў.**

**Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Мінскаму гарвыканкому даручана выдзеліць Нацыянальнай бібліятэцы часова, на перыяд правядзення рэканструкцыі і капітальнага рамонту яе будынкаў, памяшканні плошчай 6 800 квадратных метраў, у тым ліку 3 100 квадратных метраў для захоўвання кніг.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

## МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ ПАПЯРЭДЖВАЕ...

**У сувязі з тым, што асобныя замежныя сродкі масавай інфармацыі мэтанакіравана працягваюць распаўсюджваць скажоную інфармацыю аб грамадска-палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь, знешнепалітычным ведамствам краіны 12 снежня распаўсюджана адпаведная заява.**

**Як гаворыцца ў дакуменце, пры падрыхтоўцы матэрыялаў часта адбываецца адкрытая падмена фактаў, калі, напрыклад, "скапленне людзей — звычайная чарга пры адкрыцці новага рэстарана — падносіцца як масавае шэсце пратэсту". МЗС лічыць, што відэарэпартажы маніпуююцца такім чынам, каб ствараць у тэлегледачоў уражанне аб шматтысячных мітынгах і дэманстрацыях у сталіцы Беларусі. Пры гэтым "наўмысна завышаецца колькасць удзельнікаў акцый, скажаюцца дзеянні сіл правапарадку, даюцца неаб'ектыўныя, прадузятыя ацэнкі падзеям".**

**"Такія карэспандэнцыі маюць на мэце дыскрэдытацыю ўнутранай палітыкі нашай дзяржавы ў вачах сусветнай грамадскасці, накіраваную на нагнятанне палітычнай напружанасці ў краіне, — гаворыцца ў дакуменце. — У рэспубліцы адбыўся рэферэндум, які пераканаўча прадэманстраваў шырокую падтрымку народам палітыкі кіраўніцтва краіны. Апазіцыйныя сілы паказалі сваю бездапаможнасць, засталіся ў меншасці".**

**Беларускае знешнепалітычнае ведамства лічыць, што ўсе заявы аб расколе ў грамадстве — "толькі спроба выдаць жаданае за рэчаіснасць". Новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь стварыла ўсе перадумовы для далейшага развіцця дэмакратыі і беларускай дзяржаўнасці, і "ў гэтым працэсе не апошнюю ролю прызначаны адыграць нацыянальныя і замежныя сродкі масавай інфармацыі".**

**У той жа час, у выпадку распаўсюджвання акрэдытаванымі журналістамі замежных СМІ заведама недакладных матэрыялаў аб унутрыпалітычнай сітуацыі ў дзяржаве міністэрства мае намер прымаць прадугледжаныя заканадаўствам краіны меры.**

*АПАЗІЦЫЯ*

## ПАГАВАРЫЛІ І...

**"Мы засталіся дэпутатамі, хаця і не ўваходзім ні ў якія палаты. Мы будзем і надалей годна выконваць абавязкі перад выбаршчыкамі!" — з такой заявы Сямёна Шарэцкага пачалася 10 снежня першая рабочая нарада дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія не пажадалі стаць членамі новага парламента, паколькі па-ранейшаму застаюцца прыхільнікамі Канстытуцыі ўзору 1994 года. У сталічны Дом літаратара на сустрэчу прыйшло каля сарака выбраннікаў народа, прадстаўнікі СМІ, а таксама два дэпутаты, якія былі абраны падчас апошніх выбараў, але так і не атрымалі афіцыйнай рэгістрацыі ў ЦВК, — Грушавы і Тарасаў.**

**На нарадзе так ні да чаго і не дагаварыліся, не было прынята ніякага рашэння.**

*ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ*

## ШТО Ў АБАРОЦЕ?

**У Міністэрстве знешніх эканамічных сувязей Беларусі падведзены вынікі знешнегандлёвага абароту рэспублікі за дзевяць месяцаў гэтага года. Яго памер склаў 9,9 мільярда долараў ЗША. Тавараабарот з краінамі СНД склаў 6,6 мільярда долараў, у тым ліку з Расіяй — 5,2 мільярда, з дзяржавамі далёкага замежжа — 3,3 мільярда. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года тавараабарот павялічыўся ў цэлым на 19,7 працэнта, з краінамі СНД — на 25, з дзяржавамі далёкага замежжа — на 10,4 працэнта.**

*НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ*




**Мінскі Дом друку абмежаваным тыражом выпусціў марку з адлюстраваннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. На галоўпаштамце беларускай сталіцы 6 снежня адбылося гашэнне новай маркі.**

**НА ЗДЫМКУ: канверт з новай маркай, пагашанай спецыяльным штэмпелем.**

*У АГРАРНАЙ ПАРТЫІ*

## ШАРЭЦКІ ПАДАЎ У АДСТАЎКУ

**Сямён Шарэцкі звярнуўся ў цэнтральны савет Аграрнай партыі Беларусі з просьбай аб вызваленні з пасады старшыні партыі. Як вядома, Шарэцкі быў адным з ініцыятараў і "хросных бацькоў" гэтай палітычнай арганізацыі, што змагла перамагчы ў многіх сельскіх раёнах рэспублікі ў час выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання.**

**Палітвыканком Аграрнай партыі ўсклаў выкананне абавязкаў старшыні на яго першага намесніка Аляксандра Паўлава. Новага лідэра вырашана абраць на маючым адбыцца з'ездзе ў пачатку 1997 года.**

*«МакДональдс» У МІНСКУ*



**У ноч на 10 снежня ў Мінску адкрыліся адразу тры рэстараны "МакДональдс". Якасць, культура, чысціня і даступнасць — вось асноўныя прынцыпы работы кампаніі, якая зарэкамендавала сябе ва ўсім свеце. Беларусь — сотая краіна, у якой адкрылася сетка фірменных рэстаранаў "МакДональдс". У надыходзячым годзе кампанія плануе адкрыць у Мінску яшчэ чатыры рэстараны. Працаваць у рэстаранах і ў адміністрацыі кампанія наняла каля 700 маладых людзей. Усе яны прайшлі абучэнне ў дзеючых рэстаранах "МакДональдс" у Маскве, Варшаве, Вене.**

**НА ЗДЫМКУ: рэстаран "МакДональдс" на 160 месцаў на плошчы Бангалор.**

*ПАСТАЎКІ ГАЗУ*

## БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІЯ ПЕРАМОВЫ

**Паводле звестак БелаПАН, беларуска-расійскія перамовы па аб'ёмах паставак газу, якія на працягу апошніх дзён інтэнсіўна вяліся на ўзроўні ўрадаў і зацікаўленых ведамстваў, завяршыліся паспяхова: расійскі газ будзе пастаўляцца ў Беларусь у ранейшых аб'ёмах.**

**Як ужо паведамлялася, некалькі дзён таму беларускі ўрад атрымаў тэлеграму, у якой расійскае АТ "Газпром" паведамляла аб сваім рашэнні скарацiць на 50 працэнтаў аб'ём паставак газу з-за запазычанасці Беларусі. Паводле даных інфармаванай крыніцы, на 5 снежня агульны доўг рэспублікі за расійскі газ складаў 6 760 227 мільёнаў беларускіх рублёў.**

**Падрабязнасці беларуска-расійскіх перамоў афіцыйна не паведамляюцца. Вядома толькі, што ўрад сур'ёзна заклапочаны тым, як прымусіць міністэрствы, ведамствы і канкрэтныя прадпрыемствы разлічыцца за ўжо атрыманы газ.**

*АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАРЫЙ*

## БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ ПАЛІТЫЧНАЙ І ЭКАНАМІЧНАЙ ІЗАЛЯЦЫІ БЕЛАРУСІ?

**Неадэкватная рэакцыя сусветнага супольніцтва на вынікі ўсенароднага галасавання ў нашай краіне раз-пораз прымушае задумацца над тым, ці не апынецца беларуская дзяржава ў ізаляцыі — як палітычнай, так і эканамічнай. Пракаменціраваць гэту сітуацыю карэспандэнт БЕЛТА папрасіў намесніка міністра замежных спраў рэспублікі Міхаіла ХВАСТОВА.**

**Паводле яго слоў, Міністэрства замежных спраў Беларусі старанна вывучае рэакцыю краін Захаду на вынікі нядаўняга рэферэндуму. Пры гэтым дыпламат бярэ ў разлік перш за ўсё еўрапейскія дзяржавы і Злучаныя Штаты Амерыкі. Астатнія краіны свету, лічыць ён, яўнай цікавасці адносна падзей у нашай рэспубліцы не праяўляюць.**

**Рашэнне аб увядзенні якіх-небудзь санкцый адносна Беларусі еўрапейскімі арганізацыямі, на думку Міхаіла Хвастова, будзе не вельмі дальнабачным крокам. Любая міжнародная арганізацыя павінна лічыцца з вынікамі ўсенароднага волевыяўлення, у якой бы краіне гэта ні адбывалася. Непрызнанне Парламенцкай асамблеяй Савета Еўропы Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, а менавіта аб такім магчымым рашэнні гэтай арганізацыі апошнім часам распаўсюджваюцца звесткі, на яго думку, будзе малаперспектыўным.**

**— І нават калі супрацоўніцтва гэтай арганізацыі з нашай краінай поўнасцю спыніцца, гэта не будзе прадуманым крокам, — падкрэсліў намеснік кіраўніка знешнепалітычнага ведамства рэспублікі. — Міжнародныя арганізацыі павінны быць зацікаўлены ў тым, каб рэальна вывучыць сітуацыю і прычыны, якія прыводзяць да таго або іншага выніку. Можна па-рознаму ставіцца да дзеянняў выканаўчай улады, але абсалютна абстрагавацца ад таго, што адбываецца, немагчыма.**

**Дыпламат лічыць, што еўрапейскія дзяржавы не ўвядуць супраць нашай краіны якія-небудзь палітычныя і эканамічныя санкцыі. Паводле яго слоў, цяпер не той час, каб рабіць такія захады. Міхаіл Хвастоў мяркуе, што міжнародныя арганізацыі і еўрапейскія інстытуты будуць весці дыялог з Нацыянальным сходам, і гэта павінна адбыцца перш за ўсё па той простай прычыне, што ім неабходна разабрацца ў функцыях, якія будзе выконваць гэты дзяржаўны орган. Дыпламат выказаў спадзяванне, што такі дыялог будзе весціся як на двухбаковым, так і на шматбаковым узроўні з Прэзідэнтам і Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

**— Усё, што адбылося ў Беларусі, справа толькі самой Беларусі, і я не думаю, што еўрапейскія дзяржавы маглі б нейкім чынам паўплываць на вынік праведзенага рэферэндуму, — падкрэсліў намеснік міністра замежных спраў. — Народ сказаў тое, да чаго ён быў гатовы і з чым нельга не лічыцца.**

**Адносна распаўсюджанай інфармацыі аб намерах Літвы ўмацоўваць граніцу з нашай дзяржавай і звярнуцца ў НАТО наконт паскарэння працэдуры ўступлення яе ў гэты альянс кіруючы работнік беларускага МЗС заявіў наступнае: "Беларусь свае граніцы ўмацоўваць не збіраецца. А тое, што хоча зрабіць адносна нашай краіны любая дзяржава, якая мяжуе з намі, — гэта яе ўласная справа. Ніякіх ваяўнічых намераў у Беларусі няма". У той жа час Міхаіл Хвастоў гэту заяву кіраўніцтва суседняй краіны сур'ёзнай не лічыць.**

**Што ж датычыць распрацоўкі беларускім МЗС знешнепалітычнага курсу краіны ў выпадку ўвядзення Захадам палітычных і эканамічных санкцый, то, як адзначыў дыпламат, цяпер сітуацыя толькі аналізуецца. Міхаіл Хвастоў абсалютна выключае магчымасць ізаляцыі Беларусі.**

*ТУРБІЗНЕС-96*



**У беларускай сталіцы пачала работу трэцяя Міжнародная турыстычная выстава "Турбізнес-96". На ёй шырока прадстаўлены ўвесь спектр галін турыстычнай сферы. Турызм і бізнес чарговы раз дэманструюць важнасць свайго спалучэння для развіцця эканомікі Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: наведвальнікі знаёмяцца з экспанатамі выставы.**

# АД ВАРШАВЫ ДА МАСКВЫ «БЕЛАЯ ПЛЯМА»?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Але мы па заказу Сусветнай арганізацыі актыўных відаў турызму распрацавалі тур на два тыдні — і кожны дзень знаходзілі, што ўключыць у праграму аглядаў. Хаця не буду адмаўляць, і турыст павінен быць спецыфічным, нават спецыяльна падрыхтаваным.

***— Здаецца, і раней нашы турыстычныя праграмы таксама не здзіўлялі разнастайнасцю. У Мінску, яго ваколлі, напрыклад, — домік I з'езда РСДРП, Курган Славы, Хатынь... Не вельмі захапляюча.***

— А больш нельга было нічога паказаць. Нават у Нясвіж не ўсіх пускалі.

У адпаведных партыйных камітэтах сядзелі людзі, якія займаліся такім адборам. Усе экскурсіі спачатку здаваліся ім на зацвярджэнне. У выніку, перавозіць замежнікаў можна было толькі па вылучаных дарогах і вуліцах, спыняцца выключна ў адведзеных месцах.

***— Мір і Нясвіж ляжалі не на "той" дарозе ці аб'езд быў звязаны з іх "непралетарскім" паходжаннем?***

— Хутчэй другое. Або: нельга — і ўсё. Вось калі б яны нейкім чынам былі звязаны з другой сусветнай вайной — тады іншая справа.

На самым пачатку перабудовы мне далі на рэцэнзію кнігу "Маршруты беларускага Паазер'я". Яна была складзена так, што ад старадаўніх захаванняў да Вялікай Айчыннай беларускай гісторыі нібыта і не існавала. Мой знаёмы англічанін Гай Пікарда неяк сказаў: "У Еўропе ведаюць Варшаву і Маскву. Ад Варшавы да Масквы — "белая пляма".

***— Выглядае ўсё досыць бесперспектыўна.***

— Тым не менш, турызм — шматгранны, мае розныя формы, віды. І, канешне, прафесіянал знойдзе, з кім працаваць і як *працаваць*.

***— Але на сённяшні дзень уязны турызм у нас, здаецца, практычна адсутнічае?***

— Па статыстыцы Міністэрства спорту і турызму, летась на Беларусь прыязджала 98 тысяч замежнікаў. Па даных іншых крыніц — 120—140 тысяч чалавек.

***— Яны ўсе турысты?***

— Адпаведна вызначэнню Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, турыстам лічыцца чалавек, які на суткі паехаў з дому не з мэтай заробку і не дзеля перамены месца жыхарства. Тлумачэнне вельмі шырокае, таму практычна ўсе прыезджыя могуць лічыцца турыстамі.

Але вернемся да прыведзеных лічбаў, якія самі па сабе няшмат што кажуць: многа гэта ці мала для нашай краіны — 98 тысяч? Да перабудовы Беларусь перасякала 150—300 тысяч штогод. Але то былі ў асноўным транзітнікі, якія ехалі ў Маскву і Ленінград. Сёння колькасць транзітнікаў нязначная. Цікава згадаць, колькі турыстаў адпраўляецца з Беларусі ў замежжа. Дык вось, апошнія 2—3 гады прыкладна па паўтара мільёна. Розніца — ці не ў дзесяць разоў. А значыць, амаль у дзесяць разоў валюты больш вывозіцца, чым трапляе да нас, што не можа не адбівацца на эканоміцы краіны.

Чаму да нас не едуць? Каб адказаць на гэтае пытанне, адзін з нашых партнёраў у Германіі нават склаў спіс з васемнаццаці пунктаў. І першае, на што ён звярнуў увагу, беларуская віза разоў у пяць даражэйшая за нямецкую. Мы плацім немцам недзе 20 марак ці 15 долараў, а яны вымушаны былі раней плаціць 60 долараў, а зараз нават 80.

Другое. На Беларусі няма ні Эйфелевай вежы, ні Пізанскай — у тым сэнсе, што адсутнічае якая-небудзь славутасць сусветнага маштабу. Зараз робяцца спробы ўзняць Шагала, зрабіць Віцебск нейкай Мекай, еўрапейскай, прынамсі. Але і тут наўрад ці што атрымаецца: няма арыгіналаў карцін. Ёсць музей — два пакоі з голымі сценамі, упрыгожанымі толькі рэпрадукцыямі, ёсць помнік Шагалу і разбураны дом, дзе ён нарадзіўся. Я бачыў збянтэжаныя вочы замежнікаў, калі яны туды траплялі: імкнуліся прыехаць, каб нешта ўбачыць, а глядзець няма чаго. Зрабіць Меку на пустым месцы вельмі складана.

Не здзіўляйцеся, але адзіны аб'ект сусветнага ўзроўню ў нас — чарнобыльская зона. Пра Чарнобыль амаль усе ведаюць ці чулі. Праўда, аб'ект гэты, самі разумееце, не станоўчага плану. Хаця, як ні дзіўна, можна выкарыстоўваць і яго адмоўны фактар.

***— Трэба быць сапраўды рызыкоўным чалавекам, каб адправіцца на экскурсію ў зону радыеактыўнага забруджання.***

— Але ёсць людзі, якім цікава на ўласныя вочы ўбачыць, што ж там здарылася. Першая група, якую мы туды павезлі, — 60 чалавек з Нарвегіі. Як казалі самі турысты, яны два гады хацелі выбрацца паглядзець, што ў нас тут адбылося.

Каб атрымаць дазвол на перасячэнне мяжы зоны, прыйшлося шмат пахадзіць па розных кабінетах. Потым, падчас паездкі, самі нарвежцы кожны дзень рабілі замеры радыяцыйнага фону. Калі праз месяц кіраўнік групы зноў быў у Мінску, ён сказаў: яны ўсё прааналізавалі, падлічылі і прыйшлі да высновы: сумарная доза, атрыманая імі за тэрмін наведвання Беларусі, аказалася меншай, чым калі б гэты час яны правялі ў роднай Нарвегіі, дзе прыродны фон вельмі высокі, бо краіна стаіць на гранітах.

***— Такім чынам, вы сцвярджаеце, што замежныя турысты гатовы ездзіць на экскурсіі ці не ў сам Чарнобыль?***

— Кіяўляне арганізавалі нават фатаграфаванне на фоне саркафага. Дарэчы, мы такія паездкі робім разам з Сахараўскім інстытутам, які забяспечвае радыяцыйную бяспеку.

Ну што зробіш — ёсць у некага патрэба паглядзець, таму што гэта сапраўды унікальнае месца. Тым больш экалагічныя праблемы ва ўсім свеце робяцца вельмі балючымі. Студэнтаў такія паездкі цікавяць у адукацыйным плане. Іншых, як, напрыклад, тых нарвежцаў, чыста па-чалавечы. У кожнага свае мэты. Скажу, мне самому было цікава ўсё ўбачыць у натуры, а не на фотаздымках ці тэлеэкране.

***— Пасля таго яшчэ былі групы?***

— Так, некалькі.

***— Вы казалі, каб прывабіць турыстаў, трэба мець нейкую шырокавядомую, досыць экзатычную славутасць. Магчыма, на такую ролю магло б прэтэндаваць паляванне ў Белавежскай пушчы? Наколькі гэта сур'ёзна?***

— Я налічваю шэсць форм турызму, якія маюць месца ў нашай краіне. Адна з іх, лічу, уласцівая толькі для Беларусі, прынамсі, у тым выглядзе, у якім яна развіваецца, — турызм на ахоўваемых прыродных тэрыторыях, што знаходзяцца ў распараджэнні Адміністрацыі Прэзідэнта. Увогуле, у многіх краінах арганізавана наведванне разнастайных нацыянальных паркаў, запаведнікаў, заказнікаў, у тым ліку (там, дзе гэта яшчэ дазваляецца па экалагічных, біялагічных меркаваннях) і з мэтай палявання. Але ўсё павінна ісці нармальна, цывілізавана і законна. Па логіцы так мусіць быць і ў нас. Што атрымліваецца на справе? Адзін раз мне давялося арганізоўваць для замежнікаў паляванне. Адбывалася ўсё даволі прымітыўна. Турысты ленаваліся шмат хадзіць. Егеры ноччу знайшлі дзіка, прывязалі яго, а раніцай выпусцілі, некалькі разоў стрэлілі, на тым і канец. А паляўнічы турызм вельмі дарагі, і развіваць яго варта (канешне, калі грошы трапляюць у дзяржаўную кішэню). Ліцэнзія на зубра, напрыклад, каштуе 6—8 тысяч долараў.

***— Вы казалі пра існаванне розных відаў турызму на Беларусі. Які з іх лічыце найбольш перспектыўным?***

— Аналізуючы вынікі работ турысцкіх выстаў, спецыялізаваных біржаў у Берліне, Гановеры, Варшаве, Пецярбургу, Маскве, разумееш: у свеце ўжо дасягнуты пэўны ўзровень камфортнасці. Але здараецца так, што для некага проста адпачываць у добрым ці нават выдатным атэлі сумна. Таму апошнім часам з'явіліся прапановы, якія спалучаюць высокі ўзровень камфортнасці з "хаджэннем" у прыроду. І я лічу, тут для нас праглядваецца пэўная перспектыва. Толькі патрэбны добрыя гасцініцы, дзе можна адпачываць у чалавечых умовах, і цікавыя маршруты. Карацей, выйсце заўсёды знойдзецца. Пад ляжачы камень, як вядома, і вада не цячэ.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

СІСТЭМУ МАНТЭСОРЫ ПРЫЗНАВАЛІ ЛЕНІН І ПАПА РЫМСКІ

# АЛЬТЭРНАТЫЎНАЯ ПЕДАГОГІКА НА БЕЛАРУСІ

На Захадзе ўжо амаль стагоддзе прымяняецца сусветна вядомая педагагічная сістэма Марыі Мантэсоры. У нас на Беларусі яна толькі пачынае ўкараняцца.

Марыя Мантэсоры (1870—1942) — першая жанчына ў Італіі, якая атрымала ступень доктара медыцыны і мела грандыёзны поспех як вучоны-наватар пры жыцці. Мантэсоры загадвала школкаю для дзяцей, што мелі недахопы ў разумовым развіцці. Займаючыся з імі па свайму асобаму метаду, які пазней стаў вядомы як метад, або сістэма Марыі Мантэсоры, яна заўважыла, што выхаванцы на іспытах паказваюць значна лепшыя веды, чым вучні звычайных гарадскіх школ. Сістэма Мантэсоры хутка распаўсюдзілася па ўсім свеце. Яе сталі выкарыстоўваць для выхавання розных дзяцей, як з нейкімі парушэннямі (апорна-рухальнага апарату, разумовага развіцця, зроку, слыху і інш.), так і абсалютна здаровых.

Мантэсоры атрымала прызнанне самых розных грамадскіх і ідэалагічных лагераў. Так, папа рымскі прызнаў яе на падставе каталіцкай педагогікі, а Ленін з прычыны таго, што яна працавала з дзецьмі пралетарскага паходжання, далучыў Мантэсоры да педагогікі камуністычнай, якая нібыта вядзе да развіцця годнага чалавека.

Першы дзіцячы сад-школа Мантэсоры адкрыўся ў Расіі ў 1913 годзе. Але ўжо ў 1922 ён, як і ўсе наступныя Мантэсоры-школы, былі разагнаны. З 1926 года рашэннем Народнага камісарыята асветы (Наркамасветы) метады выхавання і навучання вучонага былі забаронены, а на філасофію яе накладзена вета. Выданні 30—40-х гадоў называлі Мантэсоры "прадажнай дзеўкай імперыялізму" за тое, што для яе было недапушчальным слова "мы". Такім чынам, смуга забыцця на доўгія гады схавала ад нас геніяльныя ідэі геніяльнай жанчыны.

Але час бярэ сваё. І сёння дзіцячы сад № 327 — адзін з першых у Мінску, дзе пачала практыкавацца сістэма Мантэсоры. З 1992 года з элементамі сістэмы працуюць тры групы сада. Усе выхаванцы яго — звычайныя дзеці, якія, праўда, некалькі апярэджваюць сваіх равеснікаў у развіцці. Пра феномен сістэмы расказвае Валянціна Вяроўкіна — загадчыца і вялікі энтузіяст сваёй справы:

"Адным з найгалоўнейшых паняццяў гэтай педагагічнай сістэмы з'яўляецца Асоба дзіцяці. Бо душа яго — гэта чыстая дошка, і трэба стварыць такі мікраклімат, каб на ёй з'явіліся яркія, добрыя пісьмёны. Дзіця павінна адчуваць сябе свабодным чалавекам, індывідуальнасцю, асобай, здольнай шмат чаго дабіцца. Мы ведаем, колькі часу нашых дзяцей выхоўвалі па прынцыпу: "будзь такім, як усе". У Мантэсоры-групах слова "мы" замянілі на "я". Мантэсораўцам уласцівы асаблівы погляд на дзіця, касмічны погляд. Таму і педагогі тут цалкам іншага складу. Як сказала сама Мантэсоры, "педагог падобны на астранома, штоназірае ў тэлескоп светы, якія круцяцца. Яму трэба знаходзіцца ў мудрым ценю і быць не суддзёй, не дрэсіроўшчыкам, а адвакатам дзіцяці". У нас усталявалася псіхалагічная сумяшчальнасць, духоўная і эмацыянальная еднасць педагога і дзяцей".

Звычайны рабочы дзень выхавальніка і дзяцей пачынаецца з агульнага круга — эліпса, дзе малыя абменьваюцца сваімі ўражаннямі, меркаваннямі і планамі. Калі ў групе нехта захварэў, то ўсе яны жадаюць свайму сябру чаго-небудзь добрага. Перадаючы па кругу цёплы ад далоняў шарык разам з пажаданнямі адно аднаму дабра і любові, дзеці спасцігаюць эмацыянальны камфорт. Такія зносіны абавязкова нясуць у сабе станоўчы біяэнергетычны зарад.

У кожнага дзіцяці ёсць свой дыванок, свая "зямля", дзе ён спрабуе нешта тварыць. Дзеці знаходзяцца ў спецыяльна падрыхтаваным асяроддзі, і яны — гаспадары гэтага асяроддзя. Педагог развівае ў іх уменне дасягаць жаданага самастойна, без дапамогі дарослых. Падрыхтаванае акружэнне — гэта навакольны свет, прыстасаваны выключна для малых: нестандартнае размяшчэнне мэблі з мноствам розных закуткоў, начынне для кухні, прадметы туалету і, вядома, дыдактычны матэрыял.

А колькі тут мэтавых куткоў! Куток адпачынку, напрыклад, дзе маленькі чалавечак можа пабыць у адзіноце, пасумаваць ці вырашыць нейкія свае праблемы. І ўсё гэта зрабіць у цішыні і сам-насам з сабою. Дзе яшчэ, у якім дзіцячым садзе такое можна ўбачыць?

У кутку тэатральна-мастацкай дзейнасці можна памаляваць, пафантазіраваць, зрабіць прычоску і нават пакласці на сябе грым. А ў кутку прыроды ёсць добры прыродны матэрыял для дзіцячых работ. Ну і, вядома, у такой "гаспадарцы" не абысціся без кухні. Дзеці самастойна гатуюць ежу з даступных прадуктаў, што два разы на тыдзень ім прыносяць бацькі. Зразумела, усё гэта робіцца па жаданню. Дзеці разумеюць, як з чым абыходзіцца, што можна, а што нельга. Яны ўмеюць не толькі пачысціць садавіну, гародніну, спячы дранікі і прышыць гузік, але ведаюць, як вітацца з сябрамі і дарослымі, як падаць крэсла і правільна адчыніць дзверы, закруціць кран і выкупаць ляльку, дарэчы, з сапраўдным мылам і шампунем.

Важнае значэнне надаецца пытанням сексуальнай арыентацыі дзяцей. Для іх не сакрэт, што дзіця знаходзіцца ва ўтробе маці. Ёсць нават гульні-дапаможнікі "хлопчык" і "дзяўчынка", практыкуецца слуханне жывата цяжарнай жанчыны.

Дзеці-мантэсораўцы адрозніваюцца ад дзяцей звычайных садоў не толькі гэтым. Яны выконваюць арыфметычныя дзеянні ў межах сотні, лічаць да тысячы, чытаюць і пішуць. Малыя абводзяць літары па трафарэту, "набіваюць руку". А пасля яны пішуць іх на markнай крупе, на пяску, пякуць з цеста. І што цікава: ва ўсіх дзяцей аднолькавы каліграфічны почырк. А яшчэ яны маюць пачатковае ўяўленне аб гісторыі і геаграфіі, хіміі і фізіцы. Недарма ў пакоі вісіць гістарычная карта Беларусі, дзе пазначаны нашы знакамітыя мясціны. Ёсць і карта прамысловая, на якой бачны найбольш вядомыя прадпрыемствы. Напрыклад, дзе вырабляюць цукеркі ці згушчонае малако.

Дзве з трох мантэсораўскіх груп размаўляюць па-беларуску. Надзвычай цікава вывучаць беларускую мову з дапамогай сістэмы. Мова засвойваецца без усялякага прымусу, пераважна ў час гульні. Любая ж гульня павінна адпавядаць пэўным прынцыпам. І самае галоўнае: яна павінна быць толькі ў адзіным экземпляры. Калі ў звычайных дзіцячых садах усё закупляецца партыямі (10 лялек, 12 машынак і г. д.), то тут такога няма. Акрамя таго, у кожнай гульні-дапаможніку ёсць падказка: колер, форма, пах. Каб не распыляць увагі дзіцяці, кожная гульня мае адну пэўную задачу. Гуляць жа можна з усімі цацкамі, цацак "для інтэр'еру" тут няма.

Малым усё даступна. Паняцця "зачыненых дзвярэй" няма, бо такіх тут проста не існуе. Дзецям усё дазволена. Яны робяць, што хочуць. Але ў той жа час яны робяць тое, што хочам мы, дарослыя. Толькі яны пра гэта не ведаюць. Дзіця свабоднае да таго часу, пакуль яго свабода не перашкаджае тым, хто яго акружае. І калі такое здараецца, то ў тактычнай форме ўжо ўмешваецца педагог. Сама Мантэсоры называла гэта "дысцыплінай у свабодзе".

Большасць дапаможнікаў і развіваючых гульняў выхавальнікі зрабілі ўласнымі рукамі. Бо каб купіць такія, проста няма сродкаў: камплект дапаможнікаў па сістэме Мантэсоры запатэнтаваны ў Галандыі і каштуе 24 тысячы долараў. Некаторы метадычны матэрыял па гэтай сістэме друкуецца ў часопісе "Нашы дзеці". Дарэчы, з дапамогай яго галоўнага рэдактара Аляксандра Каганава ў свет хутка выйдзе кніга В. Вяроўкінай у сааўтарстве з метадыстам сада Л. Блізнец "Практыкаванні практычнага жыцця". Кніга раскрывае адзін з галоўных раздзелаў сістэмы Мантэсоры прымяняльна да нашых сённяшніх умоў. Педагогі дзеляцца вопытам укаранення элементаў сістэмы ў практыку работы дзіцячага сада, расказваюць аб сваіх ашаламляльных выніках.

Бясспрэчна, што сістэма гэта вельмі эфектыўная і патрэбная. Па сістэме Мантэсоры выхоўваўся, напрыклад, Біл Клінтан.

Гарадскім упраўленнем адукацыі ўжо распрацоўваецца ідэя стварэння ў Мінску Цэнтра Марыі Мантэсоры.

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ.**

## МАЙСТРЫ-ШКЛОВЫДЗІМАЛЬШЧЫКІ







**Малое прадпрыемства "Тверыс-Вест" у Брэсце асвоіла тэхналогію вырабу прадметаў са шкла і цяпер у невялікім цэху выпускае сапраўдныя творы мастацтва, якія пабывалі на многіх замежных выставах і зацікавілі замежныя фірмы.**

**НА ЗДЫМКАХ: любоў да мастацтва дапамагла Юрыю ДУБНІКУ авалодаць прафесіяй шкловыдзімальшчыка; прадукцыя малога прадпрыемства "Тверыс-Вест".**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

# КАБ ЖЫЦЬ ПАД СВАІМ НЕБАМ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

думку саміх выпускнікоў гімназій, іх маральнай чысціні і пашырэнню гуманістычнага погляду.

Сяргей Паўловіч укладваў глыбокі сэнс у біблейскае правіла "Дзеці — спадчына ад Госпада". Таму не толькі практычная патрэба (адсутнасць папулярнай рэлігійнай кнігі на беларускай мове) паставіла на парадак дня стварэнне адпаведных падручнікаў. У 1926 годзе ў Вільні была надрукавана падрыхтаваная ім "Свяшчэнная гісторыя Старога Завету: Для беларускіх пачатковых школ і малодшых класаў гімназій". Трэба аддаць належнае аўтару, які творча перапрацаваў тэкст Бібліі і падаў яго ў даступнай для ўспрымання вучняў форме. Усяго на 159 старонках змясцілася цікавая і займальная гісторыя ад стварэння свету да з'яўлення асобы Ісуса Хрыста.

Паводле меркаванняў самога аўтара, кніга павінна была стаць універсальнай — яе магла чытаць на роднай мове вясковая і гарадская школьная моладзь. Хоць падручнік быў крыху аб'ёмны для вучняў малодшых класаў, але яго маглі чытаць і дарослыя. Якраз у беларускіх сем'ях не хапала такой біблейска-літаратурнай хрэстаматыі.

Нягледзячы на тое, што праваслаўнае духавенства працягвала стаяць на русіфікатарскіх пазіцыях, на запыт кіраўніцтва Таварыства беларускай школы аб увядзенні падручніка ў навучальны працэс сінод з Варшавы даў усё-такі станоўчы адказ. Гэта абнадзеіла і паспрыяла далейшым творчым пошукам Сяргея Паўловіча.

У 1927/28 навучальным годзе Сяргею Паўловічу давялося выконваць абавязкі дырэктара Віленскай беларускай гімназіі. Нават за такі кароткі прамежак часу было нямала зроблена для яе далейшага існавання. Школьная бібліятэка папоўнілася 1 тысячай паасобнікаў кніг. Выпускнікі атрымалі нарэшце магчымасць здаваць экзамен на атэстат сталасці — "матуру". Папячыцель Віленскай школьнай акругі, які прысутнічаў на экзаменах, застаўся задаволеным глыбокімі ведамі вучняў. Аднак прынцыповасць і грамадзянская пазіцыя Сяргея Паўловіча была недаспадобы польскай школьнай адміністрацыі — яна адмовілася ў 1928 годзе зацвердзіць яго дырэктарам гімназіі. А ён планаваў распачаць друкаванне новых падручнікаў па розных прадметах з удзелам заходнебеларускай інтэлігенцыі ці наладзіць іх рэгулярную дастаўку з Мінска, зрабіць пастаяннымі чытанні вучнёўскіх рэфератаў, экскурсіі, узмацніць новымі сіламі хор, створаны намаганнямі Рыгора Шырмы, і шмат чаго яшчэ. "Уся праца ў гімназіі павінна быць арганізавана так, каб вучні атрымлівалі ў нас адпаведныя веды і добрае ўзгадаванне, а сама гімназія па-ранейшаму заставалася галоўным цэнтрам нацыянальна-культурнага беларускага адраджэння".

Школьная моладзь паважала і любіла Паўловіча, як руплівага настаўніка, выхавальніка і нават апекуна. Гэты "ціхі, уроджаны педагог, для якога школа была ўсім найцаннейшым у жыцці", не шкадаваў сваіх сіл і інтэлекту. Толькі цёплымі словамі ўспамінаюць гэтага акуратнага і добрага чалавека выпускнікі гімназіі.

Не быў ён абыякавы і да грамадскіх спраў. Актыўна працаваў разам з Рыгорам Шырмай, з якім усталяваліся шчырыя сяброўскія адносіны, Ігнатам Дварчанінам, Ігнатам Мятлой (яго брат Пётр быў відным дзеячам заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху), Аленай Сакаловай-Лекант, Наталляй Банцлебен і іншымі беларускімі інтэлігентамі ва ўправе Цэнтральнага гуртка ТБШ у Вільні. Дапамагаў таксама Беларускаму Выдавецкаму Таварыству. Пазней не раз выступаў з рэфератамі па гісторыі хрысціянства на Беларусі на пасяджэннях Беларускага Навуковага Таварыства.

Найбольшую ўвагу заслугоўваюць навукова-педагагічныя погляды Сяргея Паўловіча. Аб сваім бачанні мэтаў, задач, зместу выхавання пісаў ён у "Беларускім календары" на 1929 год і ў брашуры "Аб арганізацыі беларускае працоўнае школы" (1928 год). Сутнасць працоўнай школы, паводле яго слоў, заключалася ў выхаванні і чалавека, і грамадзяніна. Лічыў патрэбным абагульніць сусветны вопыт і выкарыстаць яго з улікам нацыянальных традыцый. "Трэба, каб у беларускай школе, пабудаванай на запазычаны ўзор, панаваў дух беларускасці, каб яна адпавядала ўсяму жыццю народнаму, псіхіцы і нацыянальным імкненням беларускага народа, каб з яе выходзілі людзі высокай культуры і моцныя барацьбіты за беларускую справу". Народная школа павінна быць як агульнадаступнай, так і працоўнай. Яна павінна спрыяць гарманічнаму развіццю дзяцей, падрыхтаваць іх да творчай і прадукцыйнай працы ў грамадстве. Аўтар лічыў, што ў працоўнай школе важнае значэнне набывалі фізічная і разумовая праца, грамадскае выхаванне. Усе гэтыя спадзяванні не былі марныя, бо ўжо назіраліся некаторыя поспехі ў станаўленні адзінай працоўнай школы ў БССР.

Адным з прынцыпаў працоўнай школы Сяргей Паўловіч лічыў нацыянальны характар выхавання. "Перашкаджаць нашай школе ісці менавіта гэтым шляхам — гэта было бы перадусім злачынствам супраць дзіцяці, супраць яго святога права вучыцца ў роднай школе...". Гэта лагічна ўкладвалася ў шматвяковыя традыцыі народнай педагогікі. На працягу многіх стагоддзяў беларуская сялянская сям'я была і яшчэ заставалася ў той час адзіным ахоўнікам педагагічных традыцый. Таму народная школа не магла не лічыцца з гэтым. Дзеці прыходзілі ў школу з закладзеным у сям'і светаўспрыманнем. На такой аснове патрэбна было далей развіваць дзяцей. Найбольш аптымальна гэта можна было ажыццявіць у нацыянальнай школе. Настаўнік павінен быць абавязкова ўраджэнцам данага павета. Ад яго адукаванасці, нацыянальнай свядомасці, добрага ведання ўсіх бакоў жыцця людзей залежаў поспех навучання і выхавання. З гэтай нагоды прапаноўвалася ва ўсіх сярэдніх навучальных установах і Віленскім універсітэце, які быў адзінай ВНУ ў краі, абавязкова вывучаць беларускую гісторыю, літаратуру, эканамічныя, сацыяльныя, прававыя аспекты жыцця жыхароў краю. Наогул, імкненне да пазнання гісторыі, культуры, мовы, традыцый свайго народа Сяргей Паўловіч прызнаваў не толькі як права, але і грамадзянскі абавязак.

Ён разумеў, якім цяжкім і цярністым быў і будзе надалей шлях беларускай адукацыі. Аднак іншага чакаць не даводзілася. Абставіны грамадскага жыцця патрабавалі ахвярнасці. Нягледзячы на перашкоды, людзі настойліва дамагаліся адкрыцця беларускіх школ. Не выпадкова, што ТБШ пераўтварылася ў той час у масавую культурна-асветніцкую арганізацыю Заходняй Беларусі. Выказаныя ў працы Сяргея Паўловіча думкі наконт культурна-нацыянальнага адраджэння злабадзённыя як ніколі цяпер.

У тым жа 1929 годзе ў Вільні ў Беларускай друкарні імя Ф. Скарыны была надрукавана кніга Сяргея Паўловіча "Пішы самадзейна: Развіццё навыку самастойнага пісьма. Пасобнік для беларускае школы і самавукаў. — Ч. 1: Першы год навучання (пасля азбукі)". Ужо сама структура падручніка сведчыла аб метадычным майстэрстве аўтара. Кніга адкрываецца 13 правіламі для вучняў. Цікавасць уяўляе першае — "Выкарыстоўвай толькі родную мову". У афармленні гэтага выдання прымаў удзел мастак Мікола Васілеўскі. У дапаўненне да гэтай кнігі Сяргей Паўловіч у тым жа 1929 годзе выдаў яшчэ "Метадычныя ўвагі да пасобніка "Пішы самадзейна: Развіццё навыку самастойнага пісьма".

З канца 20-х гадоў рэзка ўзмацніліся паланізатарскія памкненні школьных улад. Міністэрства веравызнанняў і грамадскай асветы Польшчы запланавала ўвядзенне з 1929/30 навучальнага года ў беларускіх і польска-беларускіх школах буквара (лацінкай) Станісава Любіч-Маеўскага. Гэтая кніга павінна была распачаць паланізацыю беларускіх дзяцей ужо з першага класа. Гэта выклікала моцную хвалю пратэсту заходнебеларускай інтэлігенцыі. Сваё абурэнне выказаў і Сяргей Паўловіч у брашуры "Некалькі ўваг аб "беларускім" Лемантары Ст. Любіч-Маеўскага". Яна была надрукавана ў 1929 годзе пад псеўданімам "Паляшук". Аўтар зрабіў крытычны аналіз буквара і прыйшоў да высновы, што яго выкарыстанне нясло значную шкоду нацыянальнай свядомасці дзяцей. Непрымальным лічыўся буквар і з-за вялікай колькасці памылак — адных толькі арфаграфічных налічвалася аж 88. Рашучае "не" было дадзена пераходу на лацінскую азбуку. "Кірыліца зраслася з усім укладам нашага жыцця, з усімі нашымі навуковымі і літаратурнымі дасягненнямі, яна — спадарожнік нашага культурнага адраджэння". Міністэрства вымушана было зняць буквар з карыстання, але ўжо ў наступным годзе другое, "папраўленае", выданне зноў паступіла ў школы.

У пачатку 30-х гадоў наступілі змрочныя часы для беларускай справы ў Польшчы. Рэжым "санацыі" праводзіў жорсткія рэпрэсіі супраць беларускіх культурна-асветніцкіх арганізацый. Сяргей Паўловіч неаднаразова арыштоўваўся разам з іншымі кіраўнікамі Таварыства беларускай школы. Аднак змаганне за нацыянальныя інтарэсы працягвалася. Ён прымаў актыўны ўдзел у выданні часопіса "Летапіс ТБШ", асветніцкай працы.

Негатыўны маральны ўплыў аказвалі таксама драматычныя падзеі, якія разгортваліся ў БССР. Там сталінскі рэжым распачаў "паляванне" супраць нацыянальна-дэмакратычнай інтэлігенцыі. Яго ахвярамі сталі і многія выдатныя дзеячы Заходняй Беларусі. У такой сітуацыі нярэдка і Сяргея Паўловіча ахоплівала пачуццё роспачы. Аб гэтым сведчаць матэрыялы справаздач камуністычных актывістаў. "Праціўнік хадэцыі (БХД. — **А. В.**), але ўсё ж гаворыць, што "Беларуская крыніца" адкрыла многім беларусам вочы на тое, хто яны. У захапленні ад культурнага будаўніцтва ў БССР, не баіцца гэта прызнаць нават перад пракурорам на следстве, але адначасова не разумее працэсаў, якія адбываюцца ў БССР. Калі даведаўся пра разгром "нацдэмаў", то выказаўся аб тым, што і там, і тут б'юць беларусаў".

Тым не менш, Сяргей Паўловіч працягваў займацца грамадскай справай. Па-ранейшаму асноўны клопат быў звязаны з падручнікамі. Пад яго рэдакцыяй быў надрукаваны ў 1933 годзе "Праваслаўны малітваслоў" на царкоўнаславянскай і беларускай мовах. Друкаванне вучэбнай літаратуры рэлігійнага зместу паскорылася пасля стварэння ў Вільні ў 1935 годзе спецыяльнай камісіі. Менавіта па яе рэкамендацыі і выйшлі ў свет у наступным годзе ў Варшаве апрацаваныя Паўловічам "Свяшчэнная гісторыя Новага Завету" і другое выданне "Першай навукі Закону Божага".

**Аляксандр ВАБІШЧЭВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**старшы выкладчык Брэсцкага**
**дзяржаўнага універсітэта.**



**НА ЗДЫМКУ: галоўная ўправа ТБШ. Злева направа ў першым радзе: Міхась ПЯТКЕВІЧ, Фелікс СТЭЦКЕВІЧ, Сяргей ПАЎЛОВІЧ, Мітрафан КІПЕЛЬ. У другім радзе: Рыгор ШЫРМА, Піліп КІЗЕВІЧ, Мікалай МАРЦІНЧЫК.**

**(Заканчэнне будзе).**

## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# МОСТ З МІНУЛАГА Ў СУЧАСНАЕ

*Належачы родным нябёсам,*
*Ты бачыш, што робіцца ў нас?*

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

Беларусы Вільні ў лістападзе адзначылі 90-годдзе "Нашай нівы". 25 лістапада 1906 года выйшла газета "Наша ніва" і праіснавала да 1915 года. Яна адкрыла новы перыяд у беларускай літаратуры, адрадзіла беларускую літаратурную мову, стварыла паўнацэнную літаратуру, сваю гістарычную канцэпцыю. Чатыры нумары рэдагаваў Вольскі, потым А. Уласаў. У 1936 годзе ва ўзросце 62 гадоў ён напісаў успамін "Якуб Колас і "Наша ніва". Вось урыўкі з гэтых успамінаў, якія вельмі актуальныя і сёння. "Пачатак беларускай прэсы быў увесь на ахвярах і цяжкай начной працы. Паўтраця году мы з Антонам Луцкевічам пісалі ад вечара да раніцы. Як мы вытрымалі гэту работу, я не разумею. Маладосць, нязломная воля і энергія, энтузіязм! Трэба было вырабляць літаратурную мову. Пазней з'явіліся памочнікі. Прыходзілі да нас, як у Запарожскую сеч...

Прыбыў у рэдакцыю да нас урэшце і Якуб Колас. Далі яму адпаведную работу. Прысылалі ў "Нашу ніву" многа вершаў, расказаў, карэспандэнцыяў. Колас меў многа працы. З благіх вершаў рабіў добрыя, і местачковы вершаплёт, прачытаўшы свае вершы сваім знаёмым, дзівіўся разам з імі: якія пенкныя вершы!

Колас унёс многа гумару ў рэдакцыю; чалавек ён быў жыццярадасны, у жыццё нашае "багемы" ўносіў у вольныя хвіліны многа "вяселля"... Дзе мае таварышы старыя? Большасць спіць у зямлі сырой. Праз іх трупы ідуць новыя барцы, утрымліваючыя заваяваныя папярэднікамі пазіцыі, смела імкнучыся далей — уперад. І як нашае пакаленне старалася вызваляць і дух народа з рабскае залежнасці ад чужынцаў, так і вы, маладыя, мусіце гэта рабіць і стварыць новы перыяд, які б адыграў не меншую ролю ў беларускім рэнесансе, як перыяд "нашаніўскі".

Гэтыя ўспаміны прачытаў Лявон Луцкевіч. Яны былі надрукаваныя ў беларускім часопісе "Калосся" ў Вільні ў 1936 годзе і ў 1994 годзе — у зборніку ўспамінаў "На суд гісторыі". Толькі пасля 80 гадоў пра "Нашу ніву" пачалі пісаць больш праўдзіва.

На старонках "Нашай нівы" пачалі друкавацца Максім Багдановіч, Цётка, Максім Гарэцкі, Ядвігін Ш., Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гарун, Змітрок Бядуля і многія іншыя творцы беларускага слова. "Нашу ніву" закрывалі і зноў адкрывалі.

У 1990 годзе менавіта ў Вільні была адноўлена "Наша ніва". Гэта выданне ўзяло не толькі ранейшую назву, не толькі адрадзіла дух сваіх папярэднікаў. Падзеяй для віленчукоў быў прыезд беларускай пісьменніцы і грамадскага дзеяча Валянціны Коўтун. Лёс Валянціны Міхайлаўны таксама цесна звязаны з Вільняй. Тут яна працавала ў архівах над раманам пра Цётку "Крыж міласэрнасці". (Хутка раман выйдзе на літоўскай мове, які пераклала Альма Лапінскене). Вільня для пісьменніцы жывая галасамі братоў Луцкевічаў, Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі. У кожным слове пісьменніцы адчуваецца боль за сваю Радзіму, народ, за лёс дзяцей. Таму яна і кіруе ўсебеларускім жаночым фондам імя Ефрасінні Полацкай.

"Нашаніўцы" пачатку XX стагоддзя перадалі нашчадкам агонь сваёй душы і веру ў свой народ. І цяпер трэба клапаціцца, каб агонь не згас, а свяціў людзям, далучаў іх да гісторыі і культуры свайго народа.

**Леакадзія МІЛАШ.**

Літва,
г. Вільнюс.



**НА ЗДЫМКУ: выступае Валянціна КОЎТУН.**

# БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ Ў ЛІТОЎСКІМ ГОРАДЗЕ

Цэнтральнае месца ў нашам жыцці займае тэлебачанне. Асабліва гэта датычыцца невялікіх гарадоў. А калі да таго ж у горадзе ёсць свая тэлестудыя, то кожная новая цікавая перадача пераўтвараецца ў вялікую падзею.

Такая падзея адбылася нядаўна ў літоўскім горадзе Вісагінасе. Горад наш жыве адасоблена. Растлумачыць гэта вельмі проста: тут месца пражывання рускамоўнага насельніцтва. Насельніцтва, трэба заўважыць, вельмі разнастайнае: рускія, беларусы, татары, украінцы, палякі... Людзі імкнуцца да роднае мовы, да аб'яднання, каб не страціць свае карані. Утварыліся грамада беларусаў, таварыства ўкраінцаў. Гэта сапраўдныя крыніцы духоўнай повязі людзей, якія апынуліся ўдалечыні ад Радзімы.

Урэшце, мы, беларусы, нават і не ўдалечыні. Усяго толькі некалькі кіламетраў да беларускай граніцы. Радзіму можна нават убачыць, калі добрае надвор'е, бо яна — на процілеглым беразе возера Друкшай, або па-беларуску Дрысвяты. Можа, таму беларускі культурны цэнтр "Крок" дзейнічае гэтак энергічна, з вялікім размахам. Вось асноўныя напрамкі яго працы: арганізаваны беларускія класы ў пачатковай школе; на базе цэнтра ажыццяўляецца вывучэнне літоўскай і замежных моў; Вісагінскі беларускі хор ужо добра вядомы ў Літве.

І вось з'явілася свая тэлеперадача. Сродкі для гэтага пачынання вылучыў Савет Еўропы, дзе была адобрана праграма "Тэлевізійнае вяшчанне на мовах нацыянальных меншасцей", прадстаўленая цэнтрам "Крок". У кожнай важнай справе патрэбны "лакаматыў"; менавіта такую ролю адыграў у нашам выпадку каардынатар цэнтра Алег Давідзюк. Яго настойлівасць і невычэрпная энергія робяць магчымымі самыя смелыя мары.

А цяпер аб саміх перадачах. Іх выпушчана дзве, у верасні і кастрычніку. Склалася невялікая творчая група: Алег Давідзюк, арганізатар і адначасова палітычны каментатар; Алена Рагавік, дыктар і рэдактар; Сяргей Крутаўцоў паспяхова асвоіў мантаж. Увесь вольны час яны аддаюць свайму захапленню. Аб'ядноўвае групу яшчэ і тое, што ўсе апынуліся землякамі, з Брэсцкай вобласці. Ужо наладзілі сувязь з рэдактарам беларускага тэлебачання ў Вільнюсе Таццянай Дубавец, якая дапамагае пачынаючым тэлеаператарам набыць неабходны вопыт.

Падзей адбываецца шмат, таму матэрыялу і сюжэтаў заўжды дастаткова. У першай перадачы гаварылася аб падрыхтоўцы да першага Свята беларускай песні ў Літве; аб тым, якая бойкая перапіска ідзе ў нас з Пастаўскім райвыканкомам аб зборах на мытні; было інтэрв'ю з дарадчыкам па культуры Беларускага пасольства ў Літве Н. Голубевай. Трэба заўважыць, што розныя палітычныя дзеячы і асобы нярэдка прыязджаюць да нас. У кастрычніку Вісагінас наведаў дарадчык Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі А. Слука. Гэты факт, зразумела, таксама стаў адным з сюжэтаў.

Перадача мае сваю аўдыторыю, прыблізна 3,5 тысячы чалавек. Гэта беларусы, якіх прыблізна 10 працэнтаў насельніцтва; яшчэ 10 працэнтаў маюць у Беларусі блізкіх сваякоў. Ёсць і грамадзяне Беларусі, іх каля 100 чалавек. Людзі задаволены тым, што атрымалі магчымасць быць прыналежнымі да палітычнага і культурнага жыцця сваёй Радзімы ды проста паслухаць родную мову. Мясцовае тэлебачанне транслюе дваццаць праграм на англійскай, французскай, польскай, нямецкай мовах, а вось беларускую пачуць нельга, таму што бліжэйшаму да нас рэтранслятару ў Браславе не хапае магутнасці. Але наогул трэба сказаць, што на адлегласці ад роднае зямлі нацыянальная самасвядомасць павялічваецца. Гэтаму росту самасвядомасці беларусаў у літоўскім горадзе Вісагінасе ў немалой ступені садзейнічае сваё беларускае тэлебачанне.

**Алена КРУТАЎЦОВА.**

г. Вісагінас.

## ДВА ТЫДНІ Ў СКАНДЫНАЎСКАЙ КРАІНЕ

# НАРВЕГІЯ — БЕГЛЫМ ПОЗІРКАМ

**Сустракацца з новай краінай заўсёды цікава, асабліва калі пра яе да нядаўняга часу мала што ведаў. За два тыдні ў Нарвежскім інстытуце журналістыкі ў мяне ды маіх калег з Украіны і Расіі было больш чым дастаткова магчымасцяў даведацца пра жыццё і гісторыю гэтай вельмі прыгожай скандынаўскай краіны. Дапамаглі "адкрыць" Нарвегію вельмі цікавыя сустрэчы ў парламенце, наведванні рэдакцыі буйнейшай штодзённай газеты Aftenposten, тэле- і радыёкампаній, буйнейшай хімічнай кампаніі Borregaard, якая з'яўляецца часткай знакамітай ORKLA GROVP, некаторых гістарычных мясцін і, нарэшце, зусім неспадзяванае спатканне з нарвежкай, карані якой у Беларусі.**

Нарвегія — краіна паўночная, але зусім нехалодная. Цёплая плынь Гальфстрым значна ўплывае на клімат і робіць яго такім жа, як і ва ўсёй Заходняй Еўропе. Сучасная Нарвегія належыць да краін з высокаразвітой эканомікай, а па ўзроўню жыцця займае адно з першых месцаў у свеце: сярэдні заробак, напрыклад, складае 30 000 долараў у год.

Нарвегія — марская дзяржава, але тут паспяхова развіваецца машынабудаўніцтва і камп'ютэрныя тэхналогіі, нафтавая і газавая вытворчасць, электраэнергетыка. Адметна, што краіна не мае знешняга доўгу.

### САМАЕ ПРЫГОЖАЕ СВЯТА

Нарвежцы ведаюць і шануюць сваю гісторыю. Асабліва яны ганарацца часамі вікінгаў, калі Нарвегія была моцнай і ўплывовай у Еўропе. Увогуле вывучэнне і ўсведамленне ролі вікінгаў паслужыла падмуркам для фармавання нацыянальнай самасвядомасці, саматоеснасці і пабудовы дзяржаўнасці на пачатку XX стагоддзя, калі гэты маленькі народ канчаткова атрымаў незалежнасць.

Гісторыя абышлася з нарвежцамі бязлітасна. Пасля росквіту падчас каралёў-вікінгаў і больш-менш паспяховага развіцця краіны ў XI—XII стагоддзях прыйшоў час міжусобных войнаў і эпідэмій чумы. У выніку дзве трэці насельніцтва было знішчана. Аслабленая Нарвегія ў 1380 годзе трапіла пад уладу Даніі аж на 434 гады.

Толькі ў студзені 1814 года, пасля паразы Напалеона (пакуль праціўнікі дамаўляліся паміж сабой), Нарвегія атрымала незалежнасць. Аднак яна доўжылася ўсяго дзевяць месяцаў. Тым не менш змагары за незалежнасць краіны не змарнавалі свайго шанцу. За гэты кароткі тэрмін быў утвораны парламент, напісана канстытуцыя, створаны падмурак дзяржаўнасці. Яго не здолеў разбурыць нават новы саюз са Швецыяй, у які нарвежцы трапілі ў кастрычніку таго ж года.

17 мая — Дзень прыняцця канстытуцыі 1814 года — самае вялікае і самае прыгожае свята. У цяперашняй Нарвегіі па той канстытуцыі жывуць нарвежцы і дагэтуль. Асобнік канстытуцыі і фотаздымкі ўсіх, хто яе прымаў, можна пабачыць у парламенце Нарвегіі. Ад абодвух саюзаў у свядомасці нарвежцаў засталося адмоўнае стаўленне да слова "саюз" увогуле. Успрымаецца як нешта зневажальна-прыніжаючае. Як мне патлумачылі, менавіта гэта і ёсць адна з прычын, чаму Нарвегія не далучылася пакуль да Еўрапейскага саюза.

### КАРАЛЯ ШАНАВАЦЬ, А ПАРЛАМЕНТ СЛУХАЦЬ

Вызваліцца з апошняга саюза са Швецыяй Нарвегія здолела толькі ў 1905 годзе. Шануючы гістарычную традыцыю і час каралёў-вікінгаў, нарвежцы выказаліся не за інстытут прэзідэнцтва, а за манархію. Цікава, што Нарвегія — адзіная краіна, дзе кароль быў абраны народам. Кароль мае вялікі аўтарытэт у краіне, палітычна ён вельмі актыўны і ўдзельнічае ў розных мерапрыемствах, аднак не мае ніякага права ўплываць на парламент. Сучасная Нарвегія з'яўляецца канстытуцыйнай манархіяй з поўнай парламенцкай дэмакратыяй.

У склад парламента ўваходзіць 165 прадстаўнікоў народа. Абіраецца ён кожныя чатыры гады. Кароль мае права выступіць у вышэйшым заканадаўчым органе толькі аднойчы ў год, каб агучыць праграму ўрада на наступны тэрмін. У парламенце прадстаўлены восем партый, з якіх істотна пераважае кіруючая партыя лейбарыстаў. "Чырвоны" электарат мае ўсяго аднаго прадстаўніка.

Увогуле праца ва ўрадзе зусім не "прыбытковая". Сярэдні заробак чыноўніка нязначна перавышае сярэдні заробак па краіне. Прэм'ер-міністр, напрыклад, атрымлівае амаль удвая больш, але значна менш, чым кіраўнік прадпрыемства або журналіст. Урад і парламент вельмі маладыя, сярэдні ўзрост крыху большы за сорак. Жанчыны складаюць 40 працэнтаў ад агульнага складу.

Мне пашчасціла быць у Нарвегіі ў вельмі незвычайны і хвалюючы час. Нечакана для ўсіх прэм'ер-міністр спадарыня Гру Харлем Брунтланд падала ў адстаўку. Парламент мы наведалі ў той самы дзень, калі пасаду заняў новы прэм'ер- міністр, і слухалі яго прамову. Некаторыя пытанні парадку дня нам было цяжка зразумець. Напрыклад, самая гарачая тэма дэбатаў сярод дэпутатаў — дазволіць ці не працаваць крамам па нядзелях.

### ІНСТЫТУТ ЖУРНАЛІСТЫКІ

Нарвежскі Інстытут журналістыкі быў утвораны трыма няўрадавымі асацыяцыямі журналістаў, галоўных рэдактараў і выдаўцоў у 1975 годзе. Галоўная мэта яго — спрыяць павышэнню ролі і ўзмацненню ўплыву прэсы ў грамадстве праз навучанне журналістаў, рэдактараў, кіраўнікоў і выдаўцоў. Спачатку інстытут месціўся ў Осла, але для пабудовы ўласнага будынку быў выбраны невялічкі горад Фрыдрыхштат за 100 кіламетраў на ўсход ад Осла-Фіёрда. Нягледзячы на тое, што інстытут — недзяржаўная ўстанова, 60 працэнтаў фінансавання (1 мільён долараў ЗША) атрымлівае ён тым не менш ад урада. Зусім не дзіўна таму, што абсталяваны інстытут суперсучаснай тэхнікай. У будынку 4 вялікія аўдыторыі, цудоўная бібліятэка, шэраг спецыяльна абсталяваных класаў і 28 пакояў, дзе жывуць журналісты падчас трэйнінгаў. Кожнаму сябру інстытута выдаецца замест пасведчання ключ ад дзвярэй, а таму прыехаць і спыніцца тут ён можа ў любы зручны для яго час і карыстацца ўсім неабходным.

Прэса ў Нарвегіі — сапраўдная чацвёртая ўлада. На краіну з 4,4 мільёна насельніцтва працуе 1 500 высокакваліфікаваных журналістаў. Тут не існуе праблемы для журналіста атрымаць інтэрв'ю ў любога прадстаўніка ўрада: ці то міністр абароны, замежных або ўнутраных спраў. Прэса карыстаецца абсалютным аўтарытэтам. Калі раптам усё ж нехта з чыноўнікаў адмовіцца ад гутарак без падстаў і тлумачэнняў, таго чакаюць вялікія непрыемнасці. Акрамя таго, журналісты маюць права на доступ да любой (за выключэннем дзяржаўных сакрэтаў) інфармацыі, і гэта замацавана спецыяльнай пастановай. Дарэчы, уся прэса падтрымліваецца дзяржавай: чым менш газета, тым большы працэнт фінансавання..

### СЛЯДЫ БЕЛАРУСАЎ НА НАРВЕЖСКАЙ ЗЯМЛІ

Чакала мяне ў Нарвегіі яшчэ адна неспадзяванка. У размовах з супрацоўніцай інстытута Тонай даведалася, што бацька яе стрыечнай сястры — з Беларусі. Яшчэ большай нечаканасцю было, што ён мой зямляк і паходзіць са Случчыны. Фёдар Сысуновіч нарадзіўся ў вёсцы Крывічы. На пачатку стагоддзя яго бацька пабудаваў там млын. Падчас раскулачвання ўсю сям'ю выслалі ў Архангельскую вобласць. Калі пачалася вайна, Фёдар пайшоў на фронт, быў кантужаны, трапіў у палон, а пасля заканчэння вайны апынуўся ў Нарвегіі, дзе пражыў усё жыццё ў тужлівых думках пра невялічкую родную вёску і шчаслівае дзяцінства пад Слуцкам. Памёр ён тры гады таму, а дачка Фёдара Сысуновіча ўсё смуткуе, захоўвае рэчы, якія нагадваюць пра бацьку, і марыць наведаць далёкую Беларусь.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

***P. S. Карыстаючыся нагодай, хачу выказаць шчырую падзяку Міністэрству замежных спраў Нарвегіі, нарвежскай амбасадзе ў Кіеве і Інстытуту журналістыкі ў Фрыдрыхштаце за падтрымку і арганізацыю паездкі і стажыроўкі ў Нарвегіі.***

## З АРХІЎНАЙ СПРАВЫ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

# СТО РАНАЎ У СЭРЦА

Голасна зрабілася толькі тагды, калі мужу трэба было вяртацца ў Прагу канчаць мэдыцыну. Яго не пусцілі. Бацькі падкінулі нам крыху грошай, і яны, як вада, расплываліся на падарожжы і просьбы. Нарэшце мы з мужам паехалі да самага старасты ў Ваўкавыск. Чакаем разам з іншымі на прыняцце. Я села. Мне было слаба, быў апошні месяц цяжарнасці. "Устаць!" — нехта зароў над маім вухам і груба штурхануў мяне ў бок. Гэта быў паліцыянт. У дзьверы ўваходзіў "ясневельможны" пан староста. Муж зблеў ад бяссілля і злосці. Са старастам строга і горда я гутарыла сама. Патрабавала, каб усё ж дазволілі мужу кончыць вучобу. Староста ветліва і вельмі з'едліва маёй просьбе адмовіў. Адна дзеячка таго часу сказала: "Няхай працуе на зямлі, ім асветы даваць нельга..."

Тагды нам нарадзіўся сынок. Прыйшоў ён маленькі ў восень з вялікіх боляў і мукаў. Мы з мужам былі бедныя



і шчаслівыя. За апошнія грошы ён купляў мне цукеркі, а хлопчыку пялюшачкі і кашулькі. За вокнамі веялі ноччу вятры, і з дрэваў асыпалася лісце. Трэба было думаць аб будучыні. Мы дагаварыліся некалі з мужам йсці праз жыццё чэсна, не махляваць, не падкупліць нікога, не кланяцца. Прышлося ўступіць са сваіх прынцыпаў, каб усё ж далі дазвол выехаць у Прагу. Муж паехаў, а я йзноў вярнулася ў Жлобаўцы. Набліжалася зіма, скавыталі халодныя вятры, і на пустое поле слаліся мякка сняжынкі. З вонку аж над калыску сына прабіваліся енкі і крыўды нашых людзей, пакрыўджаная і бунтарная падымалася Беларусь. Сышткі мае, поўныя вершаў. Я малюся імі, змагаюся, шукаю праўды і спадзяюся. Я ў іх любуюся сваім народам, лаўлю цудоўныя ноты з песняў яго, а са слоў — тысячалетнюю мудрасць. Асабістых, інтымных вершаў у мяне няма. Бацькаўшчына засланіла мне ўсё, нават гэты дарагі камочак ля сэрца — маленькага сына, які ўсміхаецца, плача — значыць — жыве!

Час ляціць. Муж кончыў універсітэт і знайшоў нейкую маленькую працу, толькі нас да яго не пускаюць. Праз поўгада што дзьве нядзелі кажуць мне ўсё ездзіць у Ваўкавыск і пытацца. Заўсягды дарма. Мне парадзілі, каб я напісала сабе польскую народнасць. Я йзноў паехала ў тое староства і голасна сказала ім, што народнасць мая беларуская, і я ніколі яе не змяню.

Я заціснула зубы. Магутнымі ўзрывамі благаслаўленнага таленту калаціў сэрца М. Танк. Рваў ён сон волата. Адчуваліся змены, але пагарджанне нашай моваю, а тым самым і народам, працягвалася. Я горда і мужна падстаўляла свой юны твар пад гэтыя насмешкі, якія на нашай зямлі наносілі нам чужыя людзі. Я верыла, што народ прачнецца, але ці не разгубіць сваіх вечных скарбаў на новых дарогах жыцця?

Нарэшце, у канцы 1937 г[ода], мяне пусцілі ў Прагу. Маленькі сынок быў маім адзіным багаццем. Так і прыехала я, вясковая дзяўчына, верная звычаям свайго народу, ведаючая ўсе лепшыя творы сусветнай літаратуры, усе ідэі гуманізму і барацьбы за нацыянальную і сацыяльную свабоду людзей, у сталіцу сярэдняй Эўропы. Заўсягды здуменая, вечна адна, не модна апранутая, я хутка навучылася чужой мовы і зразумела, што культура маяго выхавання — Эўропе не ўступае! У мяне былі непарушныя святасці звычаяў маёй зямлі, якіх яшчэ не кранула ўгодлівая, камерсантная і не заўсягды чалавечная рука цывілізацыі. Пасля двух гадоў разлукі мы йзноў сустрэліся з мужам, але ўжо далёкія сабе і чужыя. Час і цярпенні наклалі адпячатак на пачуцці. А ў Эўропе гаспадарыў ужо Гітлер. Не задоўго была анэксія Аўстрыі, а 15 сакавіка 1939 г[ода] уваравіліся нямецкія полчышчы ў Прагу. Да адчаю жаль было чэхаў. Творчы і працавіты народ, улюблёны ў сваю прыгожую зямлю, знаў сабе цану. Усе выхадцы з вёскі, яны ўзварушліва ўступалі месца ў трамваях сялянам, падкрэсліваючы сваю любоў да зямлі і старога вогнішча. Яны мучыліся страхам чужой няволі, хацелі ваяваць і на мабілізацыю йшлі, як на вясельле, але лёс хацеў іначай. Народ плакаў ад гора. Я глядзела, як людзі кахаюць сваю радзіму, і разумела іх. Пасля нападу Нямеччыны на Польшчу паявіліся нашы палонныя, пачала выходзіць за межамі беларуская газета. А ў Гудзевічах і ў Жлобаўцах злыя людзі аберуч нішчылі маю сям'ю. Яны не глядзелі на якасць людзей, але на колькасць зямлі, якую прыдбаў мой дзед, каб не быць больш прыгонным. Арыставалі дзядзькаў і маяго бацьку, і жывы з іх ніхто не вярнуўся, хворую маці з сям'ёй павалаклі ў Казахстан. У сэрцы зліласа ў адно асабістая і народная крыўда. Я пачала пісаць. Пачала сэрцам гутарыць са сваімі землякамі, раскіданымі па свеце. Раны сэрца не зажывалі, жывая кроў з іх разлівалася ў вершах, поўных кахання і веры ў яснейшыя дні.

Час быў цяжкі і небяспечны. Мне было ўсёроўна. Гэта быў адзіны час, калі я мела магчымасць сказаць сваім братам усё, што за гады жыцця набалела на сэрцы. Часта непаслушнае пяро выходзіла за граніцы дазволенага, але падалі народы, і ніхто вельмі не звяртаў увагі на беларускія вершы маладой паэтэсы. Змест маіх вершаў як неба і зямля розніўся ад зместу чужое газэты, але мяне друкавалі.

1942 год. Чэхі, якія стараліся ў гэты цяжкі час выдаваць болей сваіх патрыятычных аўтараў, выдалі і маю кнігу: "Ад родных ніў". З падам Польшчы мы страцілі грамадзянства. Падлягалі мы чэскім законам. Чэхі не давалі немцам армії, але давалі працоўную сілу. Па іх працоўнай мабілізацыі накіравалі маяго мужа і іншых беларускіх лекараў на ўсход. Я засталася сама з малым дзіцем і ўміраючымі людзьмі. На мае вершы немцы звярнулі ўвагу. Мяне пачалі праследаваць, угавараваць і змушаць пісаць у іх духу. Я ім адказала, што талент мой замалы на гэта. Мяне змушалі ехаць у Мінск дзеля прапаганды. Калі я ім сказала, што я не ўмею рабіць прапаганды, мне адказалі, што работа мая ім не патрэбная, толькі — імя... Мяне выратавалі, я не паехала. Пасля 11 месяцаў прабывання на Беларусі выгналі адтуль і маяго мужа, забараняючы яму практыку на той усёй тэрыторыі. Мы йзноў апынуліся ў Празе. Я амаль перастала пісаць, так і дачакаліся мы канца вайны. Пачалі прыходзіць трагічныя весткі аб смерці мае маці на высылцы, аб смерці таты ў вязніцы ў Гродні, і аб смерці маіх двох братоў у барацьбе з гітлераўцамі. Гэтыя магілы быццам і мяне прывалілі сваім дзернём. Цяжка было ўсё перанесці. Рос сынок, працаваў муж. Чэхі далі нам сваё грамадзянства, але ў 48 г[одзе] прыйшоў і мне загад нас выдаць. Віною была мая кніга, не змест яе, але факт друкавання. Чужына заўсягды мачыха. Па чэскіх законах не было ў нас ніякой віны, але кожны загад Сталіна чэхі заўсягды выпаўнялі паслушна і з насалодай. Так бязлітасна прадалі яны і нас, не гледзячы на іх грамадзянства. Суровымі былі яўрэі-следаваццелі, цынічным і азвярэлым быў да мяне міністр БССР Цынава, шчодрым на кару Народны суд у Мінску пад старшынствам нейкага Шаўчэнкі (веру, што не Тарасаў сваяк!). Прысудзілі нам з мужам разам поўстагоддзя за Беларусь...

У свеце адзінокі застаўся сын Юрка, зусім яшчэ малы, каб адужаць жыццё. Пасляваенны, далёка не дасканалы час, быў нелюдзка суровы для яго, адзінокага. Ён выжыў і мае сяння нават вышэйшую асвету, але ўсё гэта за кошт знявечанага дзяцінства, моцна надломанага здароўя ды скарочанага жыцця... Пасля нашага арышту апынуўся ён у Польшчы. Гэты народ памог яму выжыць. Там ён жыве і працуе сяння. Як надзея далейшага маяго існавання, жывуць у Беластоку два нашы ўнучкі: Міхась і Алесік. Амаль па леташні год (ад 1948 г.) спынілася мая творчасць. Голад і холад, непасільная праца і люты здзек на працягу 8 1/2 гадоў змушалі мяне сумнявацца ў нармальнасці людзей і людзкіх законаў. Не змытай нічым горыччу, недараўнальнай крыўдай ляглі гэтыя суровыя гады між мной і людзьмі, за якіх устыдно чалавецтву. Іх цень яшчэ ходзіць за мной, іх мэтады і дух і сяння напаўняюць мяне агідай, калі я адчуваю іх. Я не баюся. Лепшыя сілы грамадства йзноў вяртаюць чалавеку яго вартасць разумнай і думаючай адзінкі. Стада перапавараецца ў калектыў, і загады грузінскіх "пастухоў" памалу замяняе воля народу. Настаў час не наносіць удары людзям, а залечваць старыя раны.

Ёсць яшчэ многа невыраўняных, крывых (дарог), асабліва ў жыцці маяго народу. Я веру ў тое, што наш народ іх здолее выраўняць сам.

Жывем мы цяпер з мужам у Зэльве, у старой хаце старых Геніюшаў. Ледзьледзь ходзіць ужо мой змучаны жыццём муж на працу. Я даглядаю гародчык і хату, гатую ежу і заўсягды чакаю яго дамоў. Часам наведваюць нас добрыя людзі.

Жлобаўцаў сяння і назовы няма. Мілы гэты, абжыты людзьмі і абагрэты каханнем кут зрабіўся пустэчаю. Нечыя неразумныя рукі вырвалі з карэннямі сад і мой лес, з якім разам мы падрасталі. Нехта высек і высокую старую альшыну над рэчкаю Ваўпянкай, яна ця пер стала не шчупаковай сялібай, а вузенькай стужачкай, якую нават каза перадзыгне. Па гэтай дарагой маяму сэрцу, сяння лысай зямлі блукаюць толькі вятры і мае ўспаміны.



*Ларыса ГЕНІЮШ.*

*Публікацыя і каментарый Яніны КІСЯЛЁВАЙ.*

**НА ЗДЫМКАХ: Ларыса ГЕНІЮШ з унукам і каля сваёй сядзібы.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 49-50.**

## З ЮБІЛЕЕМ!



**У Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы прайшоў юбілейны вечар заслужанага артыста Беларусі Валерыя Філатава. Павіншаваць акцёра прыйшлі калегі са сталічных тэатраў, тэатральная грамадскасць. А потым гледачы ўбачылі спектакль "Лес" па п'есе А. Астроўскага, дзе Валерый Філатаў сыграў Шчасліўцава.**

**НА ЗДЫМКУ: акцёр Валерый ФІЛАТАЎ пасля спектакля.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

## БЕЛАРУСКІ ГАБЕЛЕН У ФРАНЦЫІ



**У Францыі ў Сент-Эцьене адбылася выстава работ беларускай мастачкі Вольгі Дзёмкінай. Гэта была яе першая персанальная выстава за мяжой.**

**Скончыўшы Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя І. Ахрэмчыка, Вольга паступіла на аддзяленне тканін і мадэліравання адзення Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, а пасля яго заканчэння — у аспірантуру Акадэміі мастацтваў. І адначасова з тэарэтычнымі ведамі яна імкнулася знайсці сваё месца ў мастацтве. Вольга займалася стварэннем касцюмаў для розных фальклорных калектываў, захапілася жывапісам, батыкам, габеленамі. Але менавіта габелены прыцягвалі яе сваім каларытам фарбаў, унікальнасцю кожнага вырабу. Шырокая адукацыя, прыродны талент і працавітасць зрабілі сваю справу. Яе работы сталі ў адзін шэраг з вырабамі вядучых габеленшчыц Беларусі.**

**Тэмай сваіх габеленаў Вольга абрала Беларусь, яе прыгажосць, гісторыю, яе людзей. Вобразы на яе габеленах вызначаюцца яркасцю, вытанчанасцю, узвышанасцю і нейкай таямнічай загадкавасцю. Яны напоўнены філасофскім сэнсам.**

**Запрашэнне на выставу ў Францыю, дзе звыш чатырохсот гадоў назад зарадзілася майстэрства габелена, было нечаканым і прыемным.**

**Вернісаж беларускай мастачкі адбыўся ў горадзе Сент-Эцьене. Як гаворыць сама Вольга, яе вельмі хвалявала, як яна ўспрымуць работы. На радасць мастака, іх зразумелі, ацанілі, прапанавалі паказаць гэтую выставу ў Парыжы і прыехаць з новымі работамі ў наступным годзе.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: Вольга ДЗЁМКІНА.**

**Фота аўтара.**

# З ВАЧАМІ, ПОЎНЫМІ АГНЮ І СЛЁЗ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

захопленыя сваімі ролямі артысты, што вырабляюць дзівосныя гэгі з яркім камічным эфектам, здзіўляюць пластычным хараством рухаў у харэаграфічных нумарах, гарэзліва спяваюць і захапляюць мілагучнай і дасціпнай мовай. Гледачы горача апладзіруюць то таму, то гэтаму выканаўцу. І ёй — Уршулі, жонцы камісара Выкрутача, якую іграе Лілія Давідовіч.

А што яна абяцае быць актрысай, здатнай здзівіць тэатрала выбуховым тэмпераментам і жывым пачуццем, адразу заўважылі дасведчаныя і спрактыкаваныя педагогі Тэатральнага інстытута. Ой, выбачайце, я ўспамінаю дакладна, што не, не ўсе педагогі з прыёмнай камісіі згаджаліся з тым, што гэтае дзяўчо мае правa і даныя, каб вучыцца "на актрысу". І багемна шчыры празорлівец Канстанцін Саннікаў, які тады сумяшчаў рэжысуру ў Купалаўскім тэатры з педагогікай у маладым інстытуце, зычна і катэгарычна абвясціў:

— З гэтага брыдкага качаняці праз год вырасце магутны лебедзь, і я з любым з вас або з усёй камісіяй буду біцца аб заклад, сцвярджаючы, што гэтая... як яе?.. Лілька першай будзе гатова зрабіцца хоць бы цыркавой наезніцай і скакаць на конскім хрыбетніку праз абручы!

Дзядзька Костусь (так яго звалі ў закуліссі) і стаў першым настаўнікам Ліліі Давідовіч. Ён не даў занадта строгім сваім калегам па інстытуцкай камісіі зламаць крылы летуценнай дзяўчыне. Ён вучыў сваіх жаўтаротых птушанят бязлітаснаму мастацтву — акцёрству. Мастацтву, якое вымагае ад чалавека бессаромнага самавыяўлення ў сцэнічным вобразе. Так-так, гэта гаворыцца зусім справядліва: калі б на маім ілбе былі напісаны назвы маіх памылак і тайных дзівацтваў, я вымушаны быў бы насоўваць капялюш па самыя бровы. Акцёр — гэта відачын з адкрытым тварам і адкрытым сэрцам. Бо ты аддаеш сваёй гераіні не прыдуманыя табой сумесна з рэжысёрам хваляванні і памкненні, а тыя, што гняздзяцца ў самым тайным прыстанішчы тваёй душы.

— Божачка! — уздыхала Ліля-студэнтка, слухаючы такія творчыя імператывы. — А як жа... Як — і не саромецца грэшных... не саромецца пачварных сваіх намераў... не зусім нармальнай прагавітасці... сваіх хваравітых жаданняў?

Адказы былі катэгарычныя і палохалі выхаванку савецкай школы. Будучай актрысе тлумачылі, быццам таленавіты мастацкі твор, а сцэнічны партрэт, магчыма, перш-наперш, — гэта вынік хваравітых у большай або меншай ступені эмоцый. Самыя каштоўныя і цудоўныя жамчужыны крышталізуюцца ў ракавіне хворага малюска, у хворай вустрыцы... Але такія высновы захаплялі і, шчыра кажучы, палохалі. Няўжо ў кожным — і ўва мне таксама! — прырода назапашвае нейкія нізкія, ганебныя, крыўдныя імпульсы і жаданні?

Лілія Давідовіч рыхтавалася да экзаменаў па дыялектычнаму матэрыялізму і лётала на спатканні "ля ліхтара" або "пад гадзіннікам", глядзела спектаклі купалаўцаў з галёркі і спявала ля вогнішчаў Купальскай ночы, а сама ўсё думала і думала. Асэнсоўвала спрадвечныя загадкі таго, што завецца феноменам чалавека.

Ідэалагічныя схемы, што панавалі тады, нібыта ўносілі пэўную яснасць у стракаты калейдаскоп уражанняў; якім быў чалавек раней, якога гартуе па навуковых праграмах наша сучаснае грамадства, якім ён будзе, калі неўзабаве настане блізкая ўжо светлая будучыня... Ды толькі вось разгорнеш тэкст ролі, дыхне на цябе з паперы жывая істота — і нешта ў адчаканеных фармулёўках падточваецца, хістаецца, нават разбураецца. Мабыць, гэты разлад паміж прыгожымі на словах ідэалагічнымі пастулатамі і жывым жыццём, з лёсам сцэнічнага персанажа, і спрыяў развіццю асаблівай акцёрскай энергетыкі ў Л. Давідовіч, энергетыкі, якая надае яркасць яе гераіням з максімалісцкімі перакананнямі. Толькі і ў іх актрыса шукае і знаходзіць штосьці па-жаночы абаяльнае, прывабнае, зразумелае.

— Ой, якая ўпартая, барані Божа! — прызнаваўся тэлевізійны рэжысёр Віктар Карпілаў, які аблюбаваў Лілію на ролю гераіні грэчаскай міфалогіі Федры і ў 1983 годзе паставіў на Рэспубліканскай студыі спектакль паводле Ж. Расіна, дзе гэтая купалаўка сыграла ці не самую трагедыйную і парадаксальна прыгожую жанчыну ў сваім рэпертуары. А Карпілаў, падумаўшы, абавязкова заўсёды дадаваў: — Дабраякасна ўпартая актрыса, што праўда то праўда.

Трапнае вызначэнне: дабраякасная ўпартасць!

Такой яна і ўваходзіла ў складаны і супярэчлівы свет мастацтва, зрабіўшы з сябе актрысу, калі на пачатку 60-х гадоў паступіла ў трупу Купалаўскага тэатра.

Ведаю яе з першых крокаў на падмостках і таму сцвярджаю, што яна з годнасцю прайшла даволі пакручасты творчы шлях. Якімі б меркаваннямі ні кіраваўся аўтар п'есы, яна свядома шукае ў абліччы сваёй гераіні ўласцівыя ёй прыродныя схільнасці, жывое захапленне і летуценнасць, яе па-жаночы зразумелую слабасць і валявую апантанасць. Яе Валька Лапатухіна ("У мяцеліцу" Л. Лявонава) і Ганна Чарнушка ў інсцэніроўцы рамана І. Мележа "Людзі на балоце" ярчэй за ўсё засведчылі сталасць артыстычнага таленту, які па-мастацку даследуе якраз чалавечую адметнасць персанажа, пранікае ў затоеныя лабірынты душы.

— О, гэная і згаджаецца з вамі, і гне сваю лінію! — так казаў пра Лілію Давідовіч слынны рэжысёр Ціхан Кандрашоў. — Адгукаецца на ваш рэжысёрскі пасыл-вабік і ўнутрана прымервае, ці сугучна гэта ейнаму разуменню ролі-характару, ці натуральна перанясе яна пачуццё на язык і прамовіць запаветнае... патаемнае...

Калі б я пачуў гэта сёння, то падхапіў бы і дадаў: патаемнае і грэшнае, тое, што лічыцца нізкім, і можа насуперак жаданню прамоўцы падарваць давер да яго або прынізіць годнасць. Ціхан Кандрашоў ведаў, аб чым гаварыў: ён паставіў прынамсі два спектаклі, дзе здабываў з таленту Л. Давідовіч раней ёю амаль не закранутыя ноты, новыя адметныя матывы жаночых паводзін. Маю на ўвазе трагедыю "У ноч зацьмення месяца" башкірскага пісьменніка М. Карыма і драму "Апошняя ахвяра" А. Астроўскага.

Я заўважыў, што пасля такіх яркіх сцэнічных работ, якімі сталі для Л. Давідовіч вобразы, створаныя ў творах І. Мележа, М. Карыма, А. Астроўскага, Л. Лявонава, яна ўзнялася на тую вяршыню, з якой адкрываецца не раўніннае плато, а далягляд скалістых стром, і кожная новая гара вышэйшая за папярэднюю. Менавіта гэты вопыт паглыблення ў вычварны жаночы нораў са здзіўляючай нечаканасцю псіхічных якасцей кожнай з названых вышэй гераінь Лілія Давідовіч увабрала ў сябе ў сапраўднай творчай садружнасці з чулымі да акцёрскай адметнасці выканаўцы роляў рэжысёрамі Барысам Эрыным і Ціханам Кандрашовым.

Мы пазней і не думалі, што гэты вопыт спрыяў таму, як на акцёрскім палетку любіміцы мінскіх гледачоў выспявалі і квітнелі, нібы гронкі п'янліва пекнага бэзу, новыя і новыя ролі, аблічча, вобразы, персоны. І ўжо ўспрымалася як нешта зусім нармальнае з'яўленне на сцэне хоць паскандынаўску затоенай "Жанчыны з мора" — Эліды (драма Г. Ібсена), хоць дзівосна схільнай да меладраматычнага душэўнага надрыву Эды ў трагікамедыі "Матылёк,.. матылёк" Альда Нікалаі.

Я затрымаюся яшчэ толькі на адным яе творчым адкрыцці. Здавалася б, ці знойдзецца штонебудзь новае ў характары Марыі Аляксандраўны Маскалёвай, якую ў розныя гады рабілі "сваёй" нязгасныя зоркі расійскай сцэны — Вольга Кніпер-Чэхава і Марыя Бабанава! Наша Лілія Давідовіч — знайшла. У яе Маскалёва была не так цынікам і несусветнай скнарай, як паэтам нажывы. Спектакль "Дзядзечкаў сон" паводле Ф. Дастаеўскага замацоўваў рэпутацыю Ліліі Давідовіч як майстра псіхалагічна-мастацкага партрэта ва ўсёй блытанай алагічнасці некаторых учынкаў і рызыкоўных здзяйсненняў яго арыгінала.

А як жа быць з тымі супярэчнасцямі, да якіх актрысу далучылі інстытуцкія педагогі? Сёння Лілія Міхайлаўна можа па-тагачаснаму ўпэўнена сцвярджаць, быццам чалавек ад прыроды надзелены самымі дабрадзейнымі якасцямі і злачынцу або грэшніка робяць з яго грамадскае асяроддзе і эканамічныя абставіны, варункі жыцця? Ці наадварот: чалавек — гэта такі від жывёлы, які мае абмежаваныя магчымасці быць задаволеным (тым больш — шчаслівым!) і прагавіта бязмежныя жаданні? І многія нашы нараканні на лёс прадыктаваныя толькі рознагалоссем паміж жаданнямі і магчымасцямі? Не-не, я не чакаю адказу ад Ліліі Міхайлаўны. Ды і хіба яны знойдуцца ў каго-небудзь! Актрыса сваімі лепшымі сцэнічнымі вобразамі ўцягвае нас у роздум пра адвечныя праблемы чалавечых пакут і радасці. І кожным паглыбленнем у складаны ўнутраны свет гераіні яна працягвае разам са сваім гледачом рухацца па лабірынту чалавечай душы, і той рух бывае падобным да ўзыходжання на нейкія вяршыні чалавечнасці.

Спадзяюся, што Лілія Міхайлаўна даруе мне цытаванне яе выказванняў, якія сведчаць, што і яна сама ў штодзённым жыцці бывае супярэчлівай. Аднаго разу тэлевізійны шоумэн падчас гумарыстычнай тусоўкі папрасіў яе пераказаць самы дасціпны з яе любімых анекдотаў, і яна адразу ж з усмешкай адмовілася, бо... "У мяне ўсе яны не надта прыстойныя", — прызналася. "Фэ! — падумаў я, — інтэлігентная асоба зноў прылюдна выстаўляе сябе гэткім не надта сарамлівым аматарам багемы". А нядаўна мы з ёю гарталі старонкі мемуараў аднае літаратурнай славутасці і вычыталі нешта пра "прыгоды ў хмызняках" вядомай спявачкі і нат прафесара вышэйшай навучальнай установы з кімсьці з мінскіх донжуанаў. Якім чынам тое ўведаў мемуарыст — незразумела. Справа не ў тым. Ён смакуе "норавы інтэлігенцыі" на ўзроўні плётак, пагалосак, чутак. Божа мой, як шчыра абуралася актрыса Давідовіч бесцырымонным стаўленнем тае славутасці да калег і таварышаў па культурнай дзейнасці!

— Ці падасце вы яму руку цяпер, Барыс Іванавіч? — рашуча спытала яна мяне, бліскаючы сваімі агністымі вачамі.

Я разгубіўся. Але з удзячнасцю падумаў збянтэжаны, што і сваёй тэатральнай творчасцю Лілія Давідовіч задае гледачу няпростыя пытанні, шукаючы адказы на якія, мы самі неўпрыкмет для сябе ад нечага ачышчаемся і да нейкіх важных ісцін далучаемся. Магчыма, тым і прыцягальная прафесія акцёра: ён быццам адно толькі па-мастацку асэнсоўвае вось гэты парадокс чалавечага лёсу, а на самай справе вядзе нас на тое святло, якое маячыць нам, паводле цяперашняга жаргону, у тунельным змроку. Такая і яна — актрыса Лілія Давідовіч.

**Барыс БУР'ЯН.**

*НАТАТКІ З «КРУГЛАГА СТАЛА»*

# РОДНУЮ МОВУ — ДЗЯРЖАВЕ

Нацыянальнае адраджэнне беларускага народа не адбудзецца без адраджэння мовы, стварэння ўмоў для свабоднага развіцця беларускай нацыянальнай школы. Беларускую мову павінна абараніць дзяржава. Да такой думкі прыйшлі ўдзельнікі "круглага стала", які адбыўся 27 лістапада ў мінскім Доме літаратара. Яго тэма: "Беларуская школа сёння: стан і перспектывы развіцця".

У абмеркаванні праблем прынялі ўдзел пісьменнікі Янка Брыль, Сяргей Грахоўскі, Васіль Зуёнак, Янка Саламевіч, Алесь Петрашкевіч, Іван Шамякін, Уладзімір Юрэвіч, а таксама прадстаўнікі Міністэрства адукацыі і навукі рэспублікі, рэктары і выкладчыкі ВНУ, дырэктары школ, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый.

Пасяджэнне "круглага стала" вёў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Зуёнак.

Ён заўважыў, што праблема моўнай адукаванасці людзей набывае ў наш час асаблівае значэнне.

Сёння відавочным становіцца факт, што наша школа павінна быць прыведзена ў большую адпаведнасць з задачамі нацыянальнага развіцця, нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага і іншых народаў, што жывуць на тэрыторыі нашай дзяржавы. Прынятыя законы, пастановы, якія гарантуюць кожнаму жыхару неад'емнае права на выхаванне і адукацыю на роднай мове, забяспечваюць прававую аснову для стварэння ў Беларусі як нацыянальнай, так і іншанацыянальнай школы.

Амаль усе прамоўцы сканцэнтравалі сваю ўвагу на праблемах навучання на беларускай мове, якія існуюць у сістэме айчыннай адукацыі.

Старшыня Таварыства беларускай школы Генадзь Пятроўскі сказаў, што беларуская мова — гэта сама гісторыя беларускага народа. Былі ў яе перыяды росквіту і заняпаду. Яна раней, чым мовы суседніх народаў, мела статус дзяржаўнай. На ёй ужо ў Вялікім Княстве Літоўскім складаліся юрыдычныя дакументы, палітычныя акты, пісаліся навуковыя працы, ствараліся мастацкія творы. Перажыла яна і цяжкія часы, калі пад пагрозай было само існаванне беларускай мовы. Яна забаранялася Соймам Рэчы Паспалітай, царскім урадам. Выцяснялася з дзяржаўных устаноў, ВНУ, школ і ў савецкі час.

Беларуская школа таксама прайшла складаны і супярэчлівы шлях свайго станаўлення і развіцця. Як вядома, дарэвалюцыйная школа ажыццяўляла дзяржаўную палітыку царскага ўрада, які быў зацікаўлены ў замацаванні сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту народаў. А русіфікатарская палітыка Расійскай імперыі не давала магчымасці развівацца нацыянальнай школе, таму што ўсе навучальныя ўстановы на Беларусі працавалі толькі на рускай мове. І права на стварэнне нацыянальнай школы беларускі народ атрымаў пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

З 1919 года разгарнуўся перавод на беларускую мову ўсіх культурна-асветных устаноў. У сістэме народнай адукацыі працэс беларусізацыі пачаўся з пачатковай школы, найбольш масавай у той час, і актыўна працягваўся ў сямігадовай і сярэдняй.

Акрамя беларускіх школ, якія ў 20-я гады складалі 90 працэнтаў, у рэспубліцы працавалі польскія, рускія, яўрэйскія, а таксама латышская, літоўская, украінская і іншыя школы. Кожны тып школ меў свой навучальны план і свае праграмы. Аднак у сувязі з далейшым грамадска-палітычным развіццём краіны паступова склалася унітарная сістэма адукацыі. Нацыянальныя школы з іх этнічнымі і культуралагічнымі асаблівасцямі паступова пераўтварыліся ў два тыпы школ з беларускай і рускай мовай навучання. Унітарная адукацыйная сістэма, а таксама дэфармацыі ў нацыянальна-моўных пытаннях негатыўна паўплывалі на агульную гуманітарную і моўную падрыхтоўку вучняў.

Беларусь — шматнацыянальная рэспубліка. На яе тэрыторыі жывуць розныя народы, але абсалютную большасць складаюць беларусы. Сёння ў рэспубліцы 30 працэнтаў школ лічацца беларускамоўнымі. Але паколькі ў большасці з іх моўны рэжым не захоўваецца, то фактычна ў чыстым выглядзе беларускамоўныя школы ў асноўным на вёсцы.

А ў гарадах іх колькасць няўхільна зніжаецца. Прычым выпускнікі гэтых школ не ва ўсіх вышэйшых і сярэдніх навучальных установах рэспублікі могуць разлічваць на тое, каб працягваць сваё навучанне на беларускай мове.

У сваім выступленні загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускага тэхналагічнага універсітэта Вольга Кузьміч адзначыла павышэнне цікавасці моладзі да беларускай мовы. Разам з тым, у Беларусі няма ніводнай нацыянальнай ВНУ, а ў школах, тэхнікумах і інстытутах адбываецца рэзкае абмежаванне беларускай мовы — на яе думку, усе дзяржаўныя установы павінны карыстацца беларускай мовай, таму што родная мова з'яўляецца важнейшым элементам гуманітарнай культуры, сродкам пазнання свету, далучэння да духоўных каштоўнасцей чалавецтва.

Рэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка Леанід Ціханаў сказаў, што закон "Аб адукацыі" і закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" дзейнічаюць у нашай краіне. Па многіх прадметах выкладанне ў педагагічных вучылішчах і БДПУ імя Максіма Танка вядзецца на беларускай мове. Іншая справа — кіраўнікі і супрацоўнікі дзяржаўных устаноў. Яны павінны ведаць беларускую мову і карыстацца ёю ў сваёй практычнай дзейнасці.

На думку большасці прамоўцаў, да вывучэння беларускай мовы неабходна падыходзіць як да сродку інтэлектуальнага і духоўнага развіцця вучняў. А галоўным зацікаўленым бокам у справе захавання і развіцця беларускамоўнага навучання павінна стаць дзяржава. Асноўная мэта моўнай адукацыі кожнай особы заключаецца ў дасягненні ёю такой ступені валодання дзяржаўнай, афіцыйнай, роднай і замежнымі мовамі, каб яны забяспечвалі глыбокае засваенне культурных здабыткаў беларускай нацыі і эфектыўныя міжнацыянальныя зносіны.

Удзельнікі "круглага стала" прынялі Зварот да Прэзідэнта краіны, урада, Міністэрства адукацыі і навукі, а таксама да грамадскасці, у якім зафіксаваны прапановы па рэформе агульнаадукацыйнай школы Беларусі.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

ПІЦЕРСКІЯ НАВІНЫ

# ПАМЯЦЬ ДУШЫ І СЭРЦА

Гэту сцэну забыць немагчыма — яна і дагэтуль стаіць перад маімі вачыма.

Ідучы на сустрэчу, прызначаную Анатолем Разумавым, навуковым супрацоўнікам Расійскай нацыянальнай бібліятэкі, я нечакана высветліў, што яго чакае яшчэ адна асоба — небагата апранутая жанчына з просценькай скураной сумачкай. Невысокага росту, негаваркая, з немітуслівымі ўдумлівымі вачыма, яна пазірала на ўсіх з той доляй цікаўнасці, што ўласцівая людзям сталага ўзросту, якія шмат чаго пабачылі на сваім вяку, але не страцілі ні душэўнай цеплыні, ні паважліва-зычлівага стаўлення нават да тых, каго бачаць упершыню.

Збегшы па прыступках мармуровай лесвіцы былой Імператарскай бібліятэкі, Анатоль Якаўлевіч павітаўся з намі і запрасіў да сябе. Але нават і не перамовіўшыся з незнаёмай мне жанчынай, што ані не паспявала за рухавым спадаром Анатолем, я ўжо здагадаўся, чаму яна хацела сустрэцца з ім: яе чакаў другі том толькі што выдадзенай Расійскай нацыянальнай бібліятэкай Кнігі памяці ахвяр палітычных рэпрэсій 1937—1938 гадоў пад назваю "Ленінградскі мартыралог". Згодна з пастановай мэрыі Санкт-Пецярбурга, якая ў свой час прыняла рашэнне аб друкаванні гэтай кнігі, родзічы і блізкія загінуўшых маюць права атрымаць кнігу бясплатна.

І Вераніка Канстанцінаўна Дашкевіч — так звалі гэту невысокую спакойную жанчыну — ішла да Анатоля Разумава, рэдактара "Ленінградскага мартыралога", якраз за гэтым. Але не толькі.

Калі мы зайшлі ў невялічкі кабінет Анатоля Якаўлевіча, яна перадала яму некалькі лісточкаў, спісаных акуратным, зусім не старэчым почыркам: па просьбе спадара Разумава Вераніка Канстанцінаўна напісала тое, што ведала пра сваю сям'ю і пра брата Браніслава Канстанцінавіча Дашкевіча, родам з в. Хацілоўічы Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці, расстралянага ў 1937 годзе органамі НКУС за нібыта шпіёнскую дзейнасць і пахаванага на Левашоўскіх могілках, дзе цяпер створаны мемарыяльны комплекс.

Анатоль Якаўлевіч быў ініцыятарам абнародавання спісу ахвяраў сталінскага рэжыму. Праца, распачатая ім у 1989—1990 гадах сумесна з архівістамі Ленінградскай управы Дзяржбяспекі, дала свой плён, і вынікі яе — спісы забітых у мястэчку Левашова — ленінградскіх Курапатах — друкаваліся ў свой час газетай "Вячэрні Ленінград".

Анатоль Якаўлевіч высветліў, што ў гэтых спісах шмат беларусаў. Ён выпісаў гэтыя звесткі і даслаў на Беларусь у рэспубліканскія і раённыя газеты. Дзякуючы гэтым спісам, многія са сваякоў забітых даведаліся пра лёс сваіх блізкіх і нават прыязджалі потым на Левашоўскія могілкі, дзе беларуская суполка сваімі намаганнямі ўсталявала першы на той час Памятны крыж, што з'явілася пачаткам утварэння мемарыяльнага комплексу.

Праца над Кнігай памяці распачалася ў 1991 годзе; летам 1995 года выйшаў першы яе том; а 24 кастрычніка г. г. у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы адбылася прэзентацыя другога тома "Мартыралога". Выпуск чарговых III і IV тамоў запланаваны на наступны год.

Як першы, так і другі тамы прадаюцца толькі ў Санкт-Пецярбургу: у Доме кнігі, у магазінах "Акадэмкнігі" і ў Кнігарні пісьменнікаў на Неўскім, 68. Але набыць яе можна і ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы, напісаўшы адпаведны ліст па адрасу: **191069, С-Пб, вул. Садовая, 18, выдавецкі аддзел РНБ (тэл. 110-57-76).**

На Беларусі гэту кнігу мае пакуль толькі адзін чалавек — былы спікер былога парламента Станіслаў Шушкевіч, атрымаўшы яе ў якасці прэзента на сустрэчы з беларускай дыяспарай.



Чаму размова пайшла менавіта пра гэта? Па той простай прычыне, што, гартаючы кнігу, штораз натыкаешся на знаёмыя назвы: "Бешанковічы Віцебскай вобл.", "Глуск Магілёўскай вобл.", "Падсвілле Глыбоцкага раёна", "Цімкавічы Капыльскага раёна" і шмат іншых. Дык чыя гэта Кніга памяці: рускіх, беларусаў, палякаў, эстонцаў ці латышоў? Адказ просты: у тым ліку і беларусаў! Дык чаму — хаця б Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі — не мець гэту кнігу — хай і ў адным асобніку? Людзі прыедуць, пацікавяцца і мо знойдуць адказ на тое, што іх хвалюе, як гэта здарылася, напрыклад з Аляксандрам Карызнам з Мінска, які прыслаў Анатолю Якаўлевічу ўсхваляваны ліст з падзякаю за тое, што нарэшце ён даведаўся, дзе пахаваны яго бацька. І такі ліст — не адзіны. Амаль усе яны, па магчымасці, друкуюцца ў Кнізе памяці, бо ўспаміны гэтых людзей пра сваіх блізкіх — не толькі прыватная справа гэтых асобаў, а адначасова дакумент — жывое сведчанне жывых людзей. І справа, якую робіць Анатоль Разумаў, вартая не толькі звычайнай падзякі, але і адпаведных — цывілізаваных — адносін да выніку ягоных намаганняў і клопатаў.

Седзячы ў ягоным кабінеце, я назіраў, з якім хваляваннем чакала Вераніка Канстанцінаўна Дашкевіч, што скажа Анатоль Якаўлевіч наконт яе ліста. А ён, прачытаўшы, удакладніў некаторыя абставіны і падзякаваў ужо немаладой жанчыне за яе клопаты, а потым паклаў перад ёй дзве кніжкі ў сіняй вокладцы. Спадарыня Дашкевіч здзівілася:

— А чаму дзве?

— Ну, тут, бачыце, у адной вокладка святлейшая, а ў другой — цямнейшая. Выбірайце тую, якая вам больш падабаецца.

— Ды што вы?! Якая розніца?! Хіба ў гэтым справа?! — горача запярэчыла Вераніка Канстанцінаўна. — Гэта ж зусім іншая Памяць... — сказала яна ўжо цішэй, нібыта толькі для сябе — і прыціснула кнігу да грудзей, як прыціскаюць самае дарагое, самае каштоўнае...

...Гэта сцэна і дагэтуль стаіць перад маімі вачыма.

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**

Санкт-Пецярбург.

**НА ЗДЫМКУ: рэдактар "Ленінградскага мартыралога" А. РАЗУМАЎ падпісвае кнігу дачцэ аднаго з расстралянных у Левашове — літаратуразнаўцы Н. КАНСТАНЦІНАВАЙ.**

## БЫЛА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ ГІМНАЗІЯ Я. КУПАЛЫ

Нямала каштоўных дарункаў ад нашых суайчыннікаў з-за мяжы атрымаў Навагрудскі краязнаўчы музей. Сёлета, напрыклад, краязнаўцаў абрадавала кніга Яна Максімюка "Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. 1945—1950 гг". Адным з заснавальнікаў той вучэльні быў Аляксандр Орса, ураджэнец навагрудскай зямлі. Дарэчы, у бягучым годзе споўнілася 100 гадоў, як ён з'явіўся на свет у вёсцы Нягневічы.

Варта хоць коратка спыніцца на постаці Аляксандра Орсы. Сваю педагагічную дзейнасць ён пачаў у якасці настаўніка ў вёсцы Вераб'евічы. У 1923 годзе едзе ў Прагу, дзе заканчвае знакаміты Карлаў універсітэт. Вярнуўшыся ў родную старонку з тытулам доктара прыродазнаўчых навук, А. Орса працуе ў беларускай гімназіі. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР прадоўжыў справу свайго жыцця ў мясцовым педвучылішчы. Наш зямляк добра разумеў: без нацыянальнай школы немагчыма разлічваць на нацыянальную свядомасць. Таму і ў гады акупацыі дбаў пра беларушчыну.

У выніку ваеннай віхуры Аляксандр Орса апынуўся ў Нямеччыне. Адразу ж пасля заканчэння вайны здольны педагог-асветнік разам з іншымі стварае ў горадзе Рэгенсбургу для беларусаў- эмігрантаў гімназію імя Янкі Купалы. Пра самаахвярную працу А. Орсы і яго сяброў на карысць нашых суайчыннікаў з ліку перамешчаных асоб і расказвае кніга Яна Максімюка.

Напрыканцы варта сказаць наступнае. Па-рознаму склаўся лёс выхаванцаў гімназіі. Некаторыя з іх, як і Аляксандр Орса, потым эмігрыравалі ў ЗША. Адметна ж тое, што ўдзячныя вучні паставілі свайму настаўніку помнік на могілках Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Жыровіцкай Божай маці ў Саўт- Рыверы.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

ЗАХАПЛЕННІ

# МУЗЕЙ РЫГОРА БЫРДЫ

Па дарозе са Шчучына недалёка ад Пясчанкі павярнулі ўправа. Паехалі лесам. Ён, злева і справа, высокі, цёмны — не толькі таму, што хвойны, але і таму, што абмыты дажджом. Звычайна ў гэты час сыпле снег, а то і добры мароз прыціскае. А тут нават на першым тыдні снежня марозам не пахне і дождж не перастае. Пра незвычайнасць надвор'я і загаварылі мы з гаспадаром хаты — Рыгорам Бырдой.

— Нешта зусім незвычайнае творыцца, — казаў ён. — Мне, старому чалавеку, цяжка нават згадаць, калі такое было.



Пакуль ён разважаў, я кінуў вокам у пакой — і радасна здзівіўся. Ды гэта ж сапраўдны музей! Чаго тут толькі няма.

— У мяне зроблена больш за сто чучалаў, — патлумачыў Рыгор Мікалаевіч.

Ён памятае гісторыю кожнага. Звяроў і птушак прыносілі яму суседзі, знаёмыя, а калі вядомасць пра самадзейнага майстра — таксідэрмолага пайшла па наваколлі, то і людзі з далёкіх вёсак. Жывёлы былі пакалечаныя. У розную бяду траплялі. Рыгор Мікалаевіч стараўся вылечыць іх. А калі не ўдавалася, то рабіў чучалы.

Стаяць яны ўсюды: на падлозе, на стале, на тэлевізары, на этажэрцы, на шафе, развешаныя на сценах.

І ўсе — як жывыя. Янот, тхор, куніца, андатра, бугай, ястрабцецяроўнік, драбнейшыя звяркі і птушкі — вавёрка, ласка... Тут можна вывучаць ледзь не ўсю мясцовую фауну. А калі наведваюцца ў хату Р. Бырды вучні ці аматары прыроды, ён расказвае ім пра спосаб жыцця, пра паводзіны тых звяркоў, якія сталі чучаламі.



Самому пазнаць таямніцы жывёльнага свету дазволіла Рыгору Мікалаевічу праца лесніка. Чвэрць стагоддзя ахоўваў ён лес, садзіў новы. Схадзіў усе дарожкі, зведаў усе куткі свайго абходу. Часам не адзін дзень назіраў за якой жывёлінай, а за гнёздамі птушак — усё лета.

Такое глыбокае веданне дапамагло яму зрабіць чучалы ў позах, найбольш характэрных для таго ці іншага звярка, птушкі. Вось і стаіць бугай з выцягнутай шыяй сярод балотнай травы, прыслухоўваецца. Здаецца, зараз закрычыць. Стаілася ласка, насцярожылася. Мусіць, разважае, куды ёй падацца.

Таксідэрмія — справа складаная, турботная. Але і патрэбная. Чучалы, зробленыя Р. Бырдой, ёсць у школах, вітрынах магазінаў, у музеях. І яму самому прыемна жыць у той абстаноўцы, што склалася ў яго хаце за шмат гадоў.

**Васіль БАГУШЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Р. БЫРДА і чучалы, зробленыя ім.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1369.
Падпісана да друку 16.12.1996 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.